*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 11 (646) 24 САКАВІКА 2004 г.

# 25-га сакавіка 86-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі




## *25 сакавіка — наша галоўнае нацыянальнае свята*

**Зварот сакратарыяту ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**

**Паважаныя суайчыннікі!**

**86 гадоў таму беларусы заявілі на ўвесь свет пра сваё адвечнае права на дзяржаўнасць, якая паўстала ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1991 годзе аднаўленне незалежнай Беларусі сталася гістарычным фактам. Беларуская мова была абвешчаная адзінай дзяржаўнай і паступова пачала пашырацца ва ўсіх сферах грамадскага і палітычнага жыцця.**

**Сёння наша задача не толькі захаваць сваю мову для нашчадкаў, але і зрабіць яе адной з паўнапраўных моваў аб'яднанай Еўропы. На жаль, чакаць у гэтай справе належнай падтрымкі ад сённяшняй улады не выпадае. Але беларуская мова ёсць і будзе заўсёды дзяржаўнай, і таму не цурайцеся карыстацца ёю ў штодзённым жыцці. Запаўняйце на ёй усе афіцыйныя паперы, анкеты, розныя квіткі. Звяртайцеся па-беларуску да дзяржаўных асобаў, ва ўстановы. Паўсюль размаўляйце па-беларуску: годна, упэўнена, ветліва. Не звяртайце ўвагі на паводзіны людзей, калі яны незычлівыя. Будзьце прыкладам для іншых, нясіце ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі ў сваім сэрцы, пачувайцеся гаспадарамі на сваёй зямлі, думайце і разважайце па-гаспа-дарску, а гэта значыць па-беларуску.**

***Прыняты 17 сакавіка 2004 г.***

# БНР!

БНР –
Бог, Народ, Радзіма.
БНР –
Быць Надзеі Ранішняй!
У змаганцаў перад вачыма
Беларушчыны сэрца параненае.

Разгараецца
на сураўеях стагодздзяў
Бел-Чырвона-Белае полымя,
Кладкі палячы здрадлівай згодзе.
Вернасьць і непахіснасьць супольныя.

Рве свабода варожыя сковы,
Прэчыць крылы зграяў абскублыя.
Санцавеецца воблік вясновы
Беларускай Народнай Рэспублікі!

***Сакавік 2004*** ***Рыгор Барадулін.***

МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
220050, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 8
тэл. (017) 227 05 75



МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
220050, г. Минск, пр. Ф. Скорины, 8
тел. (017) 227 05 75

№ 09-2/8 от 17.03.2004
от ________ № ________

**Совет Министров Республики Беларусь**

**ОО "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**

На обращения членов ОО "Таварыства беларускай мовы" по вопросу расторжения договора аренды на нежилые помещения по адресу: ул. Румянцева, 13 Минский городской исполнительный комитет сообщает следующее.

В связи с недостаточностью площадей для оперативной работы жилищно-эксплуатационной службы № 12 УП "ЖРЭО Партизанского района г. Минска", расположенной по указанному адресу, возникла необходимость в дополнительных служебных помещениях. Учитывая изложенное, а также на основании обращений ОО "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" о продлении срока аренды для предоставления возможности подбора другого помещения, **договора аренды продлены до 04. 02. 05 г.**

**Первый заместитель председателя Н. М. Ерохов.**

## 210 гадоў назад 24 сакавіка 1794 года пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі

24 сакавіка пачалося і 16 лістапада 1794 года скончылася паўстанне ў Польшчы і на Беларусі пад кіраўніцтвам ураджэнца фальварка Марачоўшчына ля мястэчка Косава Івацэвіцкага раёна Тадэвуша Касцюшкі.

Паўстанне 1794 года дало лепшым прадстаўнікам беларускага народа кірунак уласнага нацыянальнага будаўніцтва ў адзіным з суседнімі народамі змаганні за лепшую долю свайго народа.

Тадэвуш Касцюшка ў 1776-1783 гадах добраахвотна ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць ЗША, за што атрымаў ад кангрэса званне брыгаднага генерала. У 1792 годзе атрымаў званне генерал-лейтэнанта за паспяховыя ваенныя дзеянні пад Дубенкай у складзе арміі Ю. Панятоўскага.

24 сакавіка 1794 года Касцюшка быў аб'яўлены галоўнакамандуючым узброенымі сіламі і кіраўніком паўстання, выдаў маніфест аб вызваленні сялян ад прыгону, даў клятву на вернасць паўстанню і абвясціў, што будзе змагацца за ўстанаўленне самаўладдзя народа і усеагульную свабоду.







## *Джон Саўндэрс Льюіс:* "Трэба зрабіць так, каб улада не змагла працаваць без выкарыстання валійскай мовы…"

***У гісторыі адраджэння розных моў вельмі вялікае значэнне мелі і маюць канкрэтныя дзеянні канкрэтных людзей, якія спрычыняюцца да будучых акт[…]ўных кроках іншых людзей у гэт[…]м жа напрамку, у пэўным сэнсе выклікаюць ланцуговую рэакцыю. Важнае месца ў спрыянні валійскай мове 1960-х і наступных гадоў заняла дзейнасць Джона Саўндэрса Льюіса, якая цяпер назаўсёды прапісана ў гісторыі барацьбы за валійскую мову.***

Вельмі важнай падзеяй у гісторыі валійскай мовы пачатку 1960-х была радыёлекцыя Джона Саўндэрса Льюіса, пасля якой (і ў выніку якой) моўная сітуацыя ва Уэльсе стала разглядацца не так, як гэта было раней. У 1965 і 1972 гг. у парламент былі пададзены 2 аналітычныя запіскі аб сітуацыі валійскай мовы, але іх, напэўна, не было б, калі б да таго Льюіс не падрыхтаваў сваю лекцыю. (У гэтых запісках яна, аднак, ніяк не згадвалася.)

Аўтарытэт Льюіса ў валійскамоўным асяроддзі і, асабліва, сярод валійскіх нацыяналістаў надзвычай высокі. Льюіс самы выдатны валійскі драматург двух апошніх стагоддзяў, тонкі даследчык гісторыі валійскай літаратуры, раманіст і журналіст. Нарадзіўся ў 1893 годзе, у 1926-м быў у ліку заснавальнікаў Валійскай нацыяналістычнай партыі (Plaid Cymru), на чале якой знаходзіўся да 1939 года. Доўгі час выкладаў валійскую літаратуру ва ўніверсітэце Уэльса, з 1922 па 1936 гг. знаходзіўся ў Свэнсі, адкуль быў звольнены па палітычных прычынах. У 1936-м быў асуджаны на 9-месячнае турэмнае зняволенне за падпал школы вайскова-паветраных сілаў Вялікабрытаніі, заснаванай у Кэрнарфоншыры на паўвостраве Лін. У 1937-1952 гг. займаўся журналістыкай.

Льюісава лекцыя была напісана ў навуковым стылі, яна не належала да разраду лёгкага чытва. На 23-х старонках быў выкладзены падрабязны агляд гісторыі валійскай мовы, тое, як яна трактавалася бюракратыяй. Толькі на двух апошніх старонках былі прапанаваны лекі для выпраўлення сітуацыі. Магчыма, сам таго не спадзеючыся, на гэтых дзвюх старонках Льюіс акрэсліў абрысы кампаніі за аднаўленне валійскай мовы, якая неўзабаве стала рэальнасцю:

"Давайце сур'ёзна і без ваганняў станем рабіць наступныя рэчы. Трэба зрабіць так, каб мясцовая і цэнтральная ўлада не магла працаваць, не выкарыстоўваючы валійскай мовы. Давайце настойваць на тым, каб бланкі звесткаў аб даходах былі на валійскай або на валійскай і англійскай. Давайце папярэдзім цэнтральнае паштовае ведамства, што яны не атрымаюць штогадовай ліцэнзіі да той пары, пакуль яна не будзе падрыхтавана на валійскай мове. Давайце настойваць на тым, каб любы выклік у суд быў напісаны па-валійску. Гэта не выпадковыя захады нейкіх асобаў там або сям. Гэта запатрабуе арганізаванасці і актыўнасці крок за крокам, з разуменнем таго, што каб змены адбыліся, патрэбен час. Такія захады можа здзейсніць нейкая арганізацыя".

Льюіс не меў ілюзій адносна таго, якімі могуць быць непасрэдныя вынікі:

"Гэта будзе час нянавісці, пераследу і дэбатаў замест братэрскай любові, якая так маніфестуецца ў сучасным валійскім палітычным жыцці".

Тым не менш словы аб арганізацыі аказаліся прарочымі.

Такая арганізацыя (пад назвай Cymdeithas yr Iaith) была заснавана ў 1962-м годзе. Пачынаючы з кампаніі грамадскага непадпарадкавання 1963 года, першыя яе крокі датычыліся афіцыйных бланкаў і запісаў. Урадавыя аднамоўныя установы, такія як паштовае ведамства і інш., стаміліся атрымліваць назад незапоўненымі свае бланкі на вылічэнне падаткаў, квітанцыі аб аплаце за электрычнасць, за радыё, тэлебачанне, а маладыя бацькі адмаўляліся рэгістраваць нараджэнне сваіх дзяцей на англійскай мове. Гэтая кампанія праводзілася амаль выключна моладдзю і была вельмі паспяховай. У выніку надпісы на валійскай мове "Swyddfar Post" сталі з'яўляцца на паштовых установах поруч з англійскімі надпісамі "Post Office". Паштовыя вагоны тады займелі надпісы "Post Brenhinol" поруч з "Royal Mail". Валійскамоўныя бланкі і ліцэнзіі цудоўным чынам з'явіліся ў розных кутках, дзе раней прысутнасць валійскай мовы была неспадзяванай. Адзіным цяжкім арэшкам аказаліся аконны дыск у машынах, на якім фіксаваліся дадзеныя аб падатках: улады сцвердзілі, што няма ніякай магчымасці зрабіць яго дзвюхмоўным. Тады шэсцьсот кіроўцаў падпісалі зварот, што яны будуць ездзіць зусім без гэтых дыскаў, раз на валійскай мове іх няма. Улады адразу пайшлі насустрач. (У 1973 годзе пад загалоўкам "Валійскія і дзвюхмоўныя бланкі" быў надрукаваны поўны спіс усіх валійскамоўных ці дзвюхмоўных бланкаў і ліцэнзій, выдадзеных урадам.)

Сітуацыя ў гэтай сферы ўсё яшчэ далёкая ад задавальняльнай, паколькі валійскамоўныя бланкі звычайна ляжаць не навідавоку а некаторыя клеркі не хочуць, каб яны ляжалі ў відных месцах.

Другім крокам у кампаніі былі судовыя ўстановы. Удзельнікі валійскамоўнага руху сталі патрабаваць, каб позвы былі валійскамоўныя. Адзін з суддзяў у 1966 г. сцвердзіў, што валійскамоўныя позвы былі б парушэннем закону, бо мова каралеўскага суда – англійская. Аднак была праведзена кароткая кампанія пратэсту, і позвы на валійскай мове з'явіліся. Тады ж у многіх рэгіёнах Уэльса валійскамоўныя шыльды "Heddlu" з'явіліся поруч з "Police".

Наступным аб'ектам стала мова ў часе вядзення судовых працэсаў. У 1965 годзе ў рэгламенце Кардыфа было запісана: "Суд не прымае ніякіх дакументаў на валійскай мове". Аднак ужо ў 1967 годзе ў брытанскім парламенце быў прыняты закон аб роўнай правамоцнасці валійскай мовы. Сітуацыя, аднак, застаецца далёкай ад здавальняльнай, бо каралеўскія суды яшчэ настойваюць на адначасовым перакладзе з валійскай і не вядуць працэсы па-валійску, маючы справу з людзьмі, якія размаўляюць па-валійску.

Змест усёй кампаніі, якую праводзіла Cymdeithas yr Iaith, быў нягвалтоўны, аднак шэраг маладых людзей пабывалі ў турмах Англіі. У выніку гэтых дзвюх кампаній урад усталяваў у 1963 годзе спецыяльны камітэт, які змушаны быў рэкамендаваць больш шырока выкарыстоўваць валійскую мову ў афіцыйных сферах.

*Падрыхтаваў Сяргей Запрудскі.*

**Павел Сцяцко**

# *Мовазнаўчы досвед*

***Дабравешчанне*** ці ***благавешчанне?*** Беларускія слоўнікі фіксуюць толькі другое слова. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года чытаем: "Благавешчанне, ср. церк. благовещение" (С.129). Без усякіх зменаў паўторана гэта і яго двухтомным перавыданнем (Т. 1. Мінск, 1988, с.188). В. Ластоўскі гэтае расейскае слова падае з наступным тлумачэннем і беларускімі адпаведнікамі: "Благовещение, свята на успамін зьвеставаньня Дзеве Марыі (25 сакавіка): Зьвеставаньне; Багавешчаньне" ("Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік". Факс. перавыд. Мінск, 1990, с.30). Занатаваны і ўтваральны дзеяслоў гэтага назоўніка: "Благовестить, несов. прям. перен. званіць" ("Русско-белорусский словарь". М., 1953, с. 36).

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.1. Мінск, 1977, с.381) змяшчае слова з наступнай кваліфікацыяй: "Благавешчанне, н. уст. адно з веснавых хрысціянскіх свят". Аднакнігавае перавыданне таксама падае гэтае слова, з крыху зменена кваліфікацыяй (знята памета "уст-(арэлае)": "Благавешчанне, н. Адно з веснавых хрысціянскіх свят // прым. благавешчанскі" (ТСБЛМ. Мн., 1996, с.89).

У сучаснай беларускай мове ***благавешчанне*** ўспрымаецца як складанае слова з першаю часткай ***блага -*** . Слова ***блага*** слоўнікі кваліфікуюць як прыслоўе да ***благі***, а таксама як безасабовае ў ролі выказніка: "пра дрэнныя неспрыяльныя абставіны, акалічнасці; пра цяжкі фізічны або душэўны стан каго-небудзь" (ТСБМ, т.1., с.381). Прыметнік ***благі*** таксама мае ў беларускай мове (параўнальна з расейскаю) негатыўную семантыку: "які не мае станоўчых якасцяў, адмоўна ацэньваецца; дрэнны ў маральных адносінах: які заслугоўвае асуджэння, выклікае незадавальненне; непрыемны для іншых; нездаровы, хваравіты, худы; які не абяцае нічога добрага, несуцяшальны; які выклікае агіду, гадкі, непрыстойны. (Тамсама, с.381-382).

Неадпаведнасць семантыкі словаў ***блага*** і ***благо*** ў беларускай і расейскай мовах яскрава засведчана перакладнымі слоўнікамі. "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К. Крапівы: "Блага, разг. 1. нареч. плохо; дурно; нехорошо; худо; скверно; 2. в знач. безл. сказ. плохо, дурно, нехорошо; яму стала блага – ему нехорошо" (Т.1. Мінск, 1988. С. 188). Аналагічную негатыўную семантыку (параўнальна з расейскаю мовай) мае і прыметнік: "Благі. 1. плохой; нехороший; дурной; худой; скверный; 2. нездоровый болезненный" (Тамсама).

Падчас беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, рэлігійнай свабоды слова ***благавешчанне*** (з улікам разгледжаных значэнняў яго першай часткі ***блага*** -) было заменена на ***дабравешчанне*** ( з пачатковай часткай ***дабра*** -).

Словы з пачатковым коранем ***добр- (дабра-)*** маюць у беларускай мове значэнне, адпаведнае рас. ***благо***. Параўн.: ***дабрадзей – благодетель, благотворитель; дабрадзейства – благодеяние, дабратворнасць – благодеятельность, дабрачыннасць – благотворительность*** і пад. (Гл. БРС-88).

У сучасным беларускім перыядычным друку і энцыклапедычных даведніках выкарыстоўваецца якраз гэтае слова – ***дабравешчанне***. Напрыклад: "Праваслаўная царква ў Беларусі, нягледзячы на цяжкасці, перажытыя ў недалёкім мінулым, і праблемы, што паўстаюць сёння, як і раней, напоўнена дабрачыннасцю Божай і здольная несці людзям Свята Дабравешчання Хрыстовага" ("Наша слова. 2 жніўня 2000 г. С.3. Публікацыя "23 новапакутнікі Менскай епархіі").

У 18-томавай "Беларускай энцыклапедыі" змяшчаецца адмысловы артыкул пад назвай "Дабравешчанне" (БелЭн., т.5. Мінск, 1997). Дарэчы, 12-томавая БелСЭ яго не падае. У артыкуле тоўстым шрыфтам падаецца гэтае рэестравае слова. А побач курсівам – яго сінанімічныя назвы. На с. 557 чытае: "Дабравешчанне, Благавешчанне, Звеставанне (дакладная назва – Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы; ад царк. – слав. "Благая весть" – "Добрая звестка"), рэлігійна-хрысціянскае свята. Адзначаецца за 9 месяцаў перад Калядамі (каталіцкай царквой 25 сакавіка па грыгарыянскім каляндары і праваслаўнай – 7 красавіка па юліянскім). У народным календары адзначаецца як пачатак вясны, дзень абуджэння зямлі".

Як бачым, царкоўна-славянскае найменне набыло ў беларускай мове сваю нацыянальную форму, адпаведную яе лексічнай сістэме. У наступных тамах гэтай энцыклапедыі выкарыстоўваецца гэтае заканамернае беларускае слова. Так, у 15-м томе (Мінск, 2002) засведчана: "Супральскі Дабравешчанскі манастыр. Палац архімандрытаў. 17 ст." (подпіс пад малюнкам). А таксама: "…Храм Супральскага Дабравешчанскага манастыра" (с.274).

Такім чынам, на месцы былога (стараславянскага паходжаннем) наймення ***балагавешчанне*** цяпер выкарыстоўваецца натуральнае матываванае слова ***дабравешчанне***.

***Вяпрук (вепер) – кабан***. Слова ***кабан*** не фіксуе "Слоўнік беларускай мовы" Івана Насовіча. У ім бачым толькі "Веперъ – кабан кормлены, вепрук – тое самае, а таксама пра тоўстага чалавека і пра грубіяна; і вытворныя словы вепрусь і вепручок (памянш.) і веприще (узмацн.)" (Мн., 1983, с.48). "Беларуска-расійскі слоўнік" (1926) М. Байкова і С. Некрашэвіча таксама не падае гэтага слова. З значэннем рас. ***кабан*** тут занатаваны два словы: "Вапёр, м. – кабан" (с.56) і "Вяпрук, м. – вепрь, кабан" (с.74). Не змяшчае слова ***кабан*** і акадэмічны "Русско-белорусский словарь" (1953) пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі. Тут занатавана: "Кабан, зоол. 1. (дикая свинья) дзік; (вепрь) вяпрук, охота на кабанов – паляванне на дзікоў; 2. (самец домашней свиньи) парсюк, вяпрук; (хряк) кныр, кнораз; 3. перен. бран. парсюк, вяпрук" (с.190). І вытворныя прыметнікі маюць тут адмысловыя беларускія формы: "Кабаний 1. (о дикой свинье) дзічыны; 2. (о самце домашней свиньи) парсючыны, вепручыны".

Слоўнікі 60-80 гг. XX стагоддзя дзеля набліжэння моваў і ў беларускай частцы артыкула падаюць тое самае слова. "Беларуска-рускі слоўнік" (1962) пад рэдакцыяй К. Крапівы: "Кабан, -на, м. кабан, боров" (с.363). Праўда, на іншых старонках слоўніка бачым: "Вяпрук, м. 1. вепрь, кабан; 2. перен. бран. боров, кабан" (с. 194). ад гэтага слова і прыметнікі: "Вяпровы – кабаний (тамсама); вепруковы – кабаний, вепручыны – кабаний" (с.149).

Форма ***"вепр"*** справядліва не фіксуецца ў беларускай частцы слоўнікавых артыкулаў. Двухтомавае перавыданне таксама пацвярдзіла: "Вяпрук, м.1. вепрь, кабан; 2. перен. бран. боров, кабан" (Т.1., 1988, с.300); "Вепручына (мясо дикой свиньи) - кабанина; вепрчыны – кабаний, вепруковы – кабаний" (с.226). Аднак у гэтым слоўніку ўжо з'явілася ненатуральная форма ***вепр*** (з збегам зычных з фінальным санорным) як адэкват рас. ***вепрь***; ***дикий кабан*** (с.226) і ***кабаніна – кабанина*** (с.558). Засталося толькі перанесці расейскія прыметнікі – ад асновы ***- кабан -***. Гэта зроблена "Русско-белорусским словарём" 1982 года (Т.1. с.337): "Кабаний 1. (о дикой свиньи) кабаноў; дзічыны, дзікоў; 2. (о самце домашней свиньи) парсючыны, вепручыны; (притяжательное) парсюкоў, кабаноў, вепрукоў". Прадубляваны гэта і яго наступнымі перавыданнямі. Гл., напрыклад, РБС-93, Т.1., с.598).

Тлумачальны слоўнік 1996 года таксама падае на сваіх старонках слова ***вепр*** з значэннем ***"самец дзікай свінні, дзік"*** (с.109); лексема ***вяпрук*** тут мае значэнне "самец свойскай свінні" (с.137).

Гэты лексікаграфічны артыкул скалькаваны з рас.: "Вепрь, м., то же, что кабан в 1 знач.." (С. І. Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982. С.67). У 1 знач. кабан кваліфікуецца як "дзікая свіння" (с.231). Другое значэнне рас. ***кабан*** – "самец домашней свиньи" слоўнік прыпісвае суфіксаваму ўтварэнню: "Вяпрук, м. самец свойскай свінні" (С.137). І падаюцца вытворныя вловы: ***вепручок*** і ***вепручыны***. Але ж чамусьці няма тут натуральнай формы з значэннем прыналежнасці ***вепрукоў***. Відаць, таму, што ўтваэння з ***–ов*** – няма ў слоўніку С. Ожагава. Слова ***кабан*** у гэтым слоўніку падаецца з двума значэннямі: "1. Самец свінні, кныр. 2. Дзікая свіння, дзік / памянш. кабанчык" (С.261) Гэта зноў-такі копія з згаданага слоўніка С. Ожагава: "Кабан, м.1. Дикая свинья. 2.Самец домашней свиньи // уменьш. кабанчык" (С. 231). Праўда, у беларускім слоўніку памяняліся месцамі пункты "1" і "2". Астатняе – усё цалкам тоеснае.

І ў яго папярэдніку – 5 томавым ТСБМ – лексікаграфічны артыкул "Кабан" перапісаны з тлумачальнага слоўніка рускай мовы.

Так, беларусія акадэмічныя слоўнікі выконвалі ідэалагічны заказ на набліжэнне беларускай мовы да ўсесаюзнага стандарту.

Як сведчыць "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" (Т.1.Мінск, 1988, с.7), слова ***кабан*** ***"вяпрук"*** прыйшло ў беларускую (і ўкраінскую) мову з расейскай, дзе яно з татарскай; параўн. турэцк. kaban "тс". Слова ***вяпрук (вепер)*** улацвае многім славянскім мовам: ст. –рус., ст. –слав. ***вепрь***, рус. ***вепрь***, укр. ***вепр, вепер***, польс. ***wieparz***, чэш. ***vepr***, балг. ***вепър***, серб. ***вепар*** – праслав. ****verpь*** ***"вяпрук"***…".

Усё згаданае дае падставы лічыць слова ***вяпрук*** больш натуральным у беларускай мове; яно мае шэраг сваіх аднакаранёвых: ***вепручок; вепрукоў, вепручыны, вепручковы, вепручына, вепручынка, вепручынкавы***.

Да таго ж, рас. ***кабан*** мае ў беларускай мове і іншыя адпаведнікі: ***дзік, парсюк, кныр, кнораз***.





## ВЫТОКІ НАШАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

# Біяграфіі сяброў Народнага сакратарыяту БНР

***За гэтыя гады я шмат разоў углядалася ў цяпер ужо многім вядомую фатакартку сяброў Народнага сакратарыяту Беларускай Народнай Рэспублікі, зробленую ў Менску ў 1918 годзе. Час даў нам магчымасць да канца ўбачыць зямны лёс кожнага з тых, хто самаахвярна працаваў на нашую незалежнасць, хто аддаў Беларусі ўсе свае сілы і, як мы ведаем, у многіх выпадках і само жыццё. Таму цяпер, перад чарговай гадавінай святкавання ўтварэння БНР, згадайма светлым словам кожнага з іх. І няхай гэтыя кароткія радкі аб тых, хто гадаваў першыя, яшчэ зусім кволыя парасткі нашай незалежнасці, будуць сведчаннем таго, што яны назаўжды засталіся ў Гісторыі – той, якая творыцца зараз і будзе працягвацца далей, пасля нас, сённяшніх....***

***Вольга Іпатава.***

***Заўвага:*** *кароткія біяграфіі сяброў Народнага сакратарыяту падаюцца ў адпаведнасці з тым, як абазначаныя іхнія прозвішчы на фатакартцы, а менавіта: "Злева направа: сядзяць:* ***А. Бурбіс, Я. Серада, Я. Варонка, В. Захарка,*** *стаяць: —* ***А. Смоліч, П. Крэчэўскі*** *( на здымку абазначана – Крачэўскі –В.І.),* ***К. Езавітаў, А. Аўсянік, Л. Заяц****.*

***Алесь Бурбіс*** (псеўданім ***Стары Піліп***) нарадзіўся 8 кастрычніка 1885 г. у Вільні. Яго шматбаковая дзейнасць выклікае павагу і здзіўленне: за 37 гадоў свайго кароткага жыцця ён быў адным са стваральнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў 1903 годзе, а праз чатырнаццаць гадоў, адбыўшы тры гады ў Віленскай турме за сваю рэвалюцыйную дзейнасць, узначаліў у 1917 годзе Маскоўскую арганізацыю БСГ. У дваццаць гадоў ён стаў кіраўніком і адным са стваральнікаў "Мейшагольскай рэспублікі" ў Віленскім павеце – і гэта ў 1905 годзе!

У 1918 годзе ён кароткі час быў консулам Беларускай Народнай Рэспублікі ў Маскве. Стварэнне БССР здалося яму трыумфальным завяршэннем працы па дзяржаўным стварэнні беларускай незалежнасці, і ён з энтузіязмам працягваў працаваць над яе ўвасабленнем у жыццё: ужо ў 1919 годзе працуе ў Наркамземе Літоўска – Беларускай ССР, а ў 1920 –м удзельнічае ў стварэнні газеты "Савецкая Беларусь" *(якая пазней ператварылася ў "Советскую Белоруссию", дзе сёння, бадай што, яго ўжо наўрад ці сталі б друкаваць – В. І.)*. Ён імкліва "ідзе" па савецкай службовай лесвіцы: уступіўшы ў 1921 г. у Камуністычную партыю, у гэтым жа годзе пачынае працаваць намеснікам наркама замежных спраў БССР, а ў 1921 – 1922 стаў членам ЦВК. Паспеў за гэты час заснаваць таварыства Чырвонага Крыжа на Беларусі, апроч таго, найбольш вядомы як адзін са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра.

Свой след Алесь Бурбіс пакінуў не толькі ў галіне рэжысуры і акторства, але і як навуковец, чыя манаграфія " Кароткі нарыс па па эканамічнай геаграфіі Беларусі" у многім вызначыла дзяржаўную палітыку БССР у 1920-я гады, і, як пішацца ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", яго "эканамічныя ідэі і погляды... прычыніліся да ўзбуйнення БССР у 1924 і 1926" гадах.

У Нацыянальным архіве РБ захоўваецца ягоны дыпламатычны пашпарт як генеральнага консула БНР пры ўрадзе РСФСР.

***Янка Серада*** – нарадзіўся 1 траўня 1879 г. у в. Задзвеі Навагрудскага павета Менскай губерні. Скончыў Варшаўскі ветэрынарны інстытут. Ваяваў на Маньчжурскім фронце ў 1905 – 1906 г.г. Удзельнічаў у Першай Сусветнай вайне, а паміж гэтымі войнамі працаваў ветэрынарам і выкладчыкам Мар'іна – Горскай сельскагаспадарчай навучальні.

Як актыўнага дзеяча беларускага нацыянальна – вызвольнага руху яго абралі старшынёй Прэзідыюма Усебеларускага з'езду 1917 году *(таго самага, разагнанага бальшавікамі – В.І.)*, а ў 1918 годзе менавіта ён узначаліў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1919 – 1920 г.г. уваходзіў у Часовы беларускі нацыянальны камітэт, прэзідыюм Найвышэйшай рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Паміж гэтымі падзеямі і арыштам у ліпені 1930 году ляжалі гады працы навуковым супрацоўнікам Інбелкульта, арганізатарам і дырэктарам Менскага ветэрынарна- заатэхнічнага тэхнікума, дацэнтам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горы –Горках *(дзе, як хацелася б спадзявацца, некалі будзе на ганаровым месцы вісець ягоны партрэт – В.І.)* .

Апошнія гады ягонага жыцця – гэта пяцігадовая ссылка ў Яраслаўль, Краслаг у Краснаярскім краі (апошнія звесткі пра яго датуюцца 1943 –м годам). Рэабілітацыі – у 1988-м і 1989-м гадах – не перамянілі ўпартага маўчання, якое і дасюль нібыта вісіць над ягоным лёсам...

***Язэп Варонка*** – нарадзіўся 4 красавіка 1891 г. у Сакольскім павеце, які цяпер належыць Польшчы.

Быў вольнаслухачом юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, але з-за недахопу сродкаў не змог працягваць навучанне. Пазней існаваў на журналісцкія заробкі – друкаваўся пад псеўданімам ***Юрый Вегаў*** у розных пецярбургскіх газетах. У 1917 годзе ўступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду, неўзабаве ўвайшоўшы ў склад Цэнтральнага камітэту. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і і правядзенні Усебеларускага з'езду 1917 г. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У снежні 1918 г. – красавіку 1920 г. міністр беларускіх спраў і член кабінета міністраў Літвы Утварэнне БССР разглядаў як палітычны манеўр, з дапамогай якога бальшавікі хацелі "авалодаць розумамі элементаў, што нацыянальна адрадзіліся".

У 1923 годзе выехаў ў Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе адным з першых арганізоўваў беларускі палітычны рух. Выдаваў газету "Белорусская трибуна", вёў перадачы на беларускай і рускай мовах на чыкагскім радыё. Памёр 4 чэрвеня 1952 г.

***Васіль Захарка*** нарадзіўся 1 красавіка 1877 г. у вёсцы Дабрасельцы Гарадзенскай губерні (цяпер – Зэльвенскага раёна). У 28 гадоў – настаўнік царкоўна – прыходскай школы, пазней – на вайсковай службе. Член Беларускай сацыялістычнай грамады, адзін з арганізатараў з'езду беларускіх вайскоўцаў Заходняга фронту, які адбыўся 22 кастрычніка 1917 г. На Усебеларускім з'ездзе 1917 г. абраны сябрам Рады. Быў арыштаваны бальшавікамі, пазней вызвалены.

Ва ўрадах БНР займаў розныя міністэрскія пасады, а пасля расколу Рады 13 снежня 1919 г. стаў намеснікам старшыні Прэзідыюму Народнай рады БНР. У 1923 годзе выехаў на эміграцыю ў Прагу. Не прызнаў Менск адзіным цэнтрам нацыянальна – дзяржаўнага адраджэння Беларусі, а з 8 сакавіка 1928 да сваёй смерці 6 сакавіка 1943 г. – бадай, самага цяжкага ў гісторыі Рады часу — прэзідэнт Рады Б *(Першым быў Пётра Крэчэўскі, цяпер яны ляжаць на адных могілках у Празе, і ля іхніх магіл заўсёды 25 сакавіка збіраюцца беларусы. У 199... годзе пашчасціла і мне пабыць там, у гэтым святым для кожнага беларуса месцы, разам з незабыўнай Зорай Кіпель і сп. Вітаўтам, у шэрагу нашых знаных беларускіх дзеячоў – В.І.)*

Можна голькі з болем у сэрцы ўявіць сабе яго ў эміграцыі, далёка ад радзімы, адкуль ён быў вынесены жорсткімі навальніцамі бальшавісцкай экспансіі, у час, калі, нямоглы, ён марыў аб незалежнасці Беларусі і адчуваў, што дні яго злічаныя...

Частку архіваў БНР перад смерцю, як аб тым пішуць даследчыкі, ён перадаў Ларысе Геніюш, ягонай зямлячцы і выдатнай паэтцы. І яна нязломна стаяла перад катамі Беларусі, якія дарэмна дамагаліся ад яе звестак аб тым.

Яго публіцыстычная спадчына – працы "Галоўныя моманты беларускага руху", "Беларусь – роля і значэнне на Усходзе Еўропы", артыкул "Дзве культуры і дзве экспансіі".

***Аркадзь Смоліч*** нарадзіўся 29 верасня 1891 г. у вёсцы Бацэвічы Бабруйскага павету, (цяпер Клічаўскі раён). У 1905 годзе скончыў Менскую духоўную семінарыю, а праз дванаццаць гадоў – Нова-Александрыйскі інстытут сельскай гаспадаркі у Польшчы. Вучыўся ён таксама ў Кіеўскім палітэхнічным інстытуце, што дало яму шырокі кругагляд сапраўднага вучонага і яснае разуменне таго, што беларускі народ, які мае сваю ўласную багатую гісторыю, мову і культуру, павінен мець і ўласную дзяржаву.

Палітыкай ён заняўся з 19 гадоў, калі ў 1910 годзе стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), а пазней увайшоў у склад яе часовага ЦК. Быў таксама рэдактарам газеты "Грамада" і ўдзельнікам Усебеларускага з'езду 1917 года ў Менску. Стаў адным з ініцыятараў абвяшчэння БНР і аддаваў шмат сіл, каб дамагчыся яе міжнароднага прызнання, выязджаючы ў Кіеў, Варшаву, Берлін, дзе вёў перамовы. Пераехаўшы падчас акупацыі Беларусі ў Вільню, выдаў там вучэбны дапаможнік "Геаграфія Беларусі", які адкрываўся эпіграфам "Каб Беларусь перастала быць краем, невядомым для саміх беларусаў".

Быў першым старшынёй Таварыства беларускай школы, у стварэнні якога прымаў самы чынны ўдзел.

У жніўні 1922 году вярнуўся ў Менск, дзе за кароткі час зрабіў для беларускай справы тое, што выглядала б немагчымым для менш апантанага і адданага радзіме чалавека: заснаваў часопіс "Плуг" і "Цэнтральнае бюро краязнаўства", удзельнічаў у ператварэнні Інбелкульта ў Акадэмію навук, быў адным з аўтараў яе першага статута *(ці ўзгадвае хто сёння пра Аркадзя Смоліча ў нашай Акадэміі навук?-В.І.)*, апроч таго, працаваў у Наркамаце земляробства і як прафесар , загадчык кафедры, шмат рабіў у БДУ і Інбелкульце.

Быў арыштаваны 26 чэрвеня 1930 г. усё па тым жа міфічным абвінавачванні па ўдзелу ў Саюзе вызвалення Беларусі, быў на катарзе ў Пермскай, затым у Цюменскай вобл.

10 чэрвеня 193[redacted]. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Дзе ягоная магіла – невядома. Хутчэй за ўсё, быў разам з іншымі ахвярамі бальшавіцкага рэжыму кінуты ў вечную мерзлату неабсяжных прастораў Сібіры, як многія ітншыя змагары нашай Беларусі...

***Крачэўскі (Крэчэўскі) Пётр*** нарадзіўся 7 жніўня 1879 г. у Кобрынскім павеце Гарадзенскай губерні.

У 23 гады скончыў Віленскую духоўную семінарыю. Пасля працаваў настаўнікам. У Першую сусветную вайну быў прызваны на вайсковую службу. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. – старшыня Барысаўскага Савета салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Дэлегат Усебеларускага з'езду 1917 г. З 1918 г.- у складзе Народнага сакратарыяту Беларусі, узначальваў Цэнтральную беларускую гандлёвую палату. Удзельнічаў у стварэнні Беларускай партыі сацыялістаў – федэралістаў.

З 13 снежня 1919 г. – старшыня Рады БНР, першы прэзідэнт Рады БНР.

У 1920 – м годзе знаходзіўся ў эміграцыі у Літве і, пазней, у Чэхаславакіі, дзе і памёр 8 сакавіка 1928 г.

П. Крачэўскі (Крэчэўскі) – таленавіты паэт, драматург і гісторык. У 1921 г. ён выдаў вершаваную драму "Рагнеда", перакладаў з чэшскай і украінскай моў. Рэдактар зборніка "Замежная Беларусь".

(Заканчэнне на ст. 4.)



**Першы ўрад БНР - Народны Сакратарыят: (злева направа сядзяць) Алесь Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка (старшыня), Васіль Захарка; (стаяць) Аркадзь Смоліч, Пётра Крачэўскі (Крэчэўскі), Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Леанард (Лявон) Заяц**

*ВЫТОКІ НАШАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ*

# Біяграфіі сяброў Народнага сакратарыяту БНР

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.)*

Радзіма ***Кастуся Езавітава*** знаходзіцца на тэрыторыі сённяшняй Латвіі – у колішнім Дзвінску, цяпер – Даўгаўпілсе. У 1993 годзе мы ўпершыню шыроска святкавалі стагоддзе з дня яго народзін – 5 лістапада 1893 г. Але і пасёння ў Віцебску, дзе ён скончыў Настаўніцкі інстытут, у цяперашнім Універсітэце, няма ніякіх згадкаў пра свайго слыннага выпускніка. А між тым Сяргей Панізнік у водгуку на аўтарэферат Святланы Наумук аб гэтым выдатным беларускім дзеячы піша: "Пакліканы краінай Беларусь" К. Езавітаў аказаўся заўчаснікам, чалавекам будучыні на гістарычных разломах XX стагоддзя".

Па сваёй другой прафесіі К. Езавітаў – вайсковец (у гады Першай сусветнай вайны скончыў Паўлаўскае ваеннае вучылішча). Ён быў на фронце, абіраўся дэпутатам, а затым і членам Прэзідыюму з'езду воінаў – беларусаў, які ў лістападзе 1917 г. адбыўся ў Віцебску. Затым – арышт органамі ВЧК (за ўдзел у Усебеларускім з'ездзе 1917 г.), уцёкі, пасля, па адыходзе бальшавікоў, праца камендантам Менска і Менскай залогі.

Браў удзел у абвяшчэнні БНР, уваходзіў у склад Рады, быў народным сакратаром вайсковых спраў у яе першым урадзе, кіраўніком вайскова – дыпламатычнай місіі Беларускай народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі. Арганізоўваў беларускае войска, але, маючы літаратурныя здольнасці, не толькі выдаваў газеты і часапісы (у Горадні –газету "Бацькаўшчына", у Рызе – газету "Голас беларуса" і часопісы "На чужыне", "Беларуская школа ў Латвіі"), а таксама напісаў шэраг артыкулаў пра сваіх выдатных сучаснікаў.

Дзейнасць К. Езавітава была настолькі шматграннай, што мы можам гаварыць пра яго як пра аднаго з тытанаў беларускага адраджэння. Многіх прыгодніцкіх раманаў вартае яго жыццё і шматлікія арышты, у тым ліку і латвійскімі ўладамі за імкненне "сілай адарваць ад Латвійскай дзяржавы тэрыторыю Дзвінскага, Рэжыцкага, Люцынскага і часткова Ілукштанскага паветаў і далучыць іх да Беларускай Дзяржавы".

Трагічная і смерць яго ў Менскай бальніцы нібыта ад сухотаў, калі ён падманам быў захоплены савецкай контрвыведкай у Нямеччыне ў 1945 годзе і перапраўлены ў Маскву, а затым у Менск. У дыязгазе ўзгадваецца пра "дыстрафію" – можна толькі з болем уявіць, праз якія пакуты яму давялося прайсці ў тых засценках, куды ён быў прывезены...

Пра яго пісалі С. Сахараў, С. Панізнік, А. Каўка, У. Міхнюк, а таксама іншыя даследчыкі. Але кніга аб ім, выдатным дзеячы беларускай справы, утваральніку БНР, яшчэ чакае свайго аўтара.

Звестак аб **Антоне Аўсяніку** няшмат. У артыкуле, напісаным А. Лісам для "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", не ўказваецца дакладная дата нараджэння, а змешчаны толькі год – 1888 – і месца – вёска Кабылле Альковіцкай воласці (цяпер в. Кастрычніцкая Вілейскага раёна). Нават дата смерці – 1933 год – пададзеная з пытальнікам, што, ў суадносінах з апошнім радком біяграфіі: " У пачатку 1930-х гадоў эміграваў у БССР" (відавочна з Заходняй Беларусі) гаворыць аб тым трагічным шляху, які прайшоў за свае 45 гадоў член Народнага Сакратарыяту Беларусі, сябра Беларускай Сацыялістычнай грамады (БСГ). Гэта быў перадусім адукаваны спецыяліст ( скончыў тэхналагічны інстытут у Харкаве, вучыўся на караблебудаўнічым факультэце Пецярбургскага палітэхнічнага інстытута, а таксама быў абраны ў сейм Польскай Рэспублікі і ўваходзіў у Беларускі пасольскі клуб.

***Леанард (Лявон) Заяц*** нарадзіўся ў сакавіку 1890 г. у вёсцы Даўгінава Вілейскага павету. Скончыў універсітэт у Пецярбургу. У гады Першай сусветнай вайны жыў і працаваў у Вільні, быў членам партыі беларускіх эсэраў. На Усебеларускім з'ездзе 1917 г. абраны членам рады, а з лютага працуе ў Народным Сакратарыяце. Пасля расколу БНР, які адбыўся 13 снежня 1919 г. стаў працаваць загадчыкам канцылярыі і дзяржаўным сакратаром у Народнай радзе БНР. Л. Заяц быў таксама ўдзельнікам Другой Усебеларускай канферэнцыі, якая адбылася ў Берліне ў 1925 г. У тым жа годзе ён прыехаў у БССР, дзе яму далі працу ў Народным камісарыяце фінансаў. Але праз пяць гадоў бальшавіцкія "чысткі" дабраліся і да яго. Пяць гадоў прабыў у высылцы ў Уфе. 25 чэрвеня 1935 года зноў арыштаваны абласным упраўленнем НКУС СССР, і ў час следства памёр у турме.

Зноў той жа пакутніцкі лёс, катаванні, здзекі. За яе, за родную Беларусь, за яе шчаслівы лёс.

За яе Незалежнасць...

Калі ўглядаешся ў твары усіх гэтых у большасці сваёй яшчэ маладых, прыгожых, таленавітых, а галоўнае – адданых Беларусі людзей, яе палітычных дзеячоў, смыліць думка – калі ж на нашых вуліцах і плошчах будуць стаяць ім помнікі, калі ў месцах тых навучальных установ, дамоў, дзе яны жылі, будуць вісець мемарыяльныя дошкі ў іхні гонар?!

Хочацца верыць, што гэта адбудзецца яшчэ пры нашым жыцці. Але сёння мы павінны болей пісаць пра іх, узгадваць, надаваць іхнім імёнам вядомасць. Асабліва гэта важна рабіць у нашыя святы, а галоўнае сярод іх – гэта дата абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, дзень 25 сакавіка.

**Гэты дзень нам падарылі ЯНЫ...**

**Сяргей Панізьнік**

## Падкрылкі Дня

Пад раніцу анёльчыкі ўскрыляюцца.
Малітва на дзянніцу – усур"ёз.
У цемрыва нячысцікі хаваюцца.
Я – додніцаю – згадваю свой лёс.

І раніца маёй здагадкай раніцца,
І раіцца са светам: што рабіць?
Я раніцай хачу Айчыне кланяцца,
Ёй бел – чырвона – белай стужкай быць,

Каб не забыць: са мною прачынаецца
І мной трымаецца жыцця прамень.
Ох, ранне... У тумане. Зіркні, раніца!
Наперадзе высокі, доўгі дзень.

*Васіль Ліцьвінка*

# Шчыры руплівец на ніве народнай

**Кастусю Цвірку - 70**



Беларускі паэт, фалькларыст і выдавец, Кастусь Цвірка нарадзіўся ў цэнтры беларушчыны, паміж запаведнікам старажытнаславянскай культуры Палессем і Меншчынай ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва Старадарожскага раёна. Пасля заканчэння філфака Белдзяржуніверсітэта ў 1956 годзе настаўнічаў у вёсцы Труханавічы Капыльскага раёна, працаваў у райгазеце "Рудзенская праўда", на Беларускім радыё, з 1972 года – у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, дзе і абараніў дысертацыю на званне кандыдата гістарычных навук. З 1981 года Кастусь Цвірка плённа працуе ў выдавецтве "Юнацтва", а з 1984 – у часопісе "Полымя".

Вершы пачаў друкаваць у 1953 годзе, выдаў зборнікі "Такія сэрцы ў нас"(1959), "Бягуць раўчукі"(1962), "Чарназём"(1967), "Каласы"(1975), "Сцежка дадому"(1980), "Хат вячысты дар"(1982), "Рэха дарог"(1982) і іншыя. Вершы Цвіркі поўныя матываў вяртання дадому, да родных вытокаў, роднай вёскі з яе натуральнай прыгажосцю, духоўна багатымі, крыштальнай маральнай чысціні людзьмі, у песнях якіх гучыць высокая паэзія і шчымлівая лірыка.

У апошні час больш выступае як літаратуразнаўца і фалькларыст. Даследуе творчасць Уладзіслава Сыракомлі (нарыс "Дарога ў сто год" - 1974, манаграфія "Слова пра Сыракомлю" - 1975), Адама Міцкевіча, Яна Чачота (кнігі нарысаў "Той курган векавечны" – 1985, "Лісце забытых алеяў" - 1989), укладальнік тома ў зводзе БНТ "Вяселле. Абрад" (1978), сааўтар манаграфіі "Беларуская фалькларыстыка. Эпоха феадалізму" (1989).

Яшчэ ў 1996 годзе Кастусь Цвірка стварыў Міжнародны грамадскі фонд "Беларускі кнігазбор" і распрацаваў у двух серыях – мастацкай і гістарычна-літаратурных помнікаў – яго выданне у двухсот тамах. Як укладальнік, перакладчык, аўтар прадмовы і каментарыяў ён распачаў гэтую серыю кнігай "Ян Чачот. Выбраныя творы" (1996). У ёй упершыню у перакладзе Кастуся Цвіркі былі абнародаваны 24 з 55 гістарычна-мастацкія бала-ды Яна Чачота "Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года", якія для аўтара гэтых радкоў на дзесяцігоддзе сталі прадметам захаплення і цяпер закончыліся асобным выданнем з нотамі, выявамі ліцьвінскіх князёў і грунтоўным каментарыем другога перакладчыка Станіслава Судніка. Цяпер у серыі "Беларускі кнігазбор" ужо выдадзена 22 кнігі. Большасць з іх адкрываюць новыя старонкі багатай гісторыі, самабытнасці культуры, аднаўляюць славутыя імёны нашай Бацькаўшчыны. Бясцэнны, напрыклад, у кнігазборы тамы "Беларускія летапісы і хронікі" (1997), "Вацлаў Ластоўскі"(1997), "Філаматы і філарэты"(1998), "Беларусы" Яўхіма Карскага (2001) і ўсе астатнія іншыя. Акрамя таго, у выдавецтве "Беллітфонд" Кастусь Цвірка распрацаваў серыйныя выданні "Беларускі гістарычны раман" і "Мастакі Беларусі".

Аўтара гэтых радкоў Кастусь Цвірка ўразіў сваёй незвычайнай навуковай эрудыцыяй і дапытлівасцю, асабліва ў томе "Вяселле. Абрад" з цяпер ужо 45-томнага Зводу "Беларуская народная творчасць" і грунтоўнай калектыўнай гістарыяграфічнай манаграфіі "Беларуская фалькларыстыка. Эпоха феадалізму"(1989), рэдкай шчырасцю і лірызмам, яка выцякае з глыбінь народнай душы ў паэзіі і нарысах.

Сапраўды, вялікая праца такіх незвычайных людзей як Кастусь Цвірка ва ўсёй яе шырыні бачыцца на адлегласці і залатымі літарамі будзе ўпісана ў гісторыі культуры нашага народа. Цяпер жа пажадаем выдатнаму беларусу здароўя, плёну і добрага ўласнага самаадчування.

# *Абаронім Дом літаратара*

**Зварот сакратарыяту ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**

**Паважаныя суайчыннікі!**

Нашая краіна мае багатыя духоўныя набыткі. Адзін з іх — вядомая ва ўсім свеце айчынная літаратура, якой можа ганарыцца кожны грамадзянін. Сёння на літаратурнай ніве шчыруе каля паўтысячы творцаў. На жаль, становішча іхняе незайздроснае. Пісьменніцкая арганізацыя пачувае сябе падчаркай у роднай краіне. У 1997 годзе яе пазбавілі маёмасці, ліквідаваўшы Дом літаратара, які Саюз пісьменнікаў атрымаў у дар ад дзяржавы. Пазней забралі і пісьменніцкую паліклініку, будынак якой набыў Літфонд на свае ўласныя сродкі. Цяпер усё гэтае багацце належыць Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Дом літаратара, вядомы культурны асяродак сталіцы, дзе ладзіліся сустрэчы з пісьменнікамі, прэзентацыі кніг, вечарыны ўшанавання памяці памерлых дзеячоў, кінапрэм'еры па літаратурных творах, дзе сабраны багаты бібліятэчны фонд, ператвараецца — паводле вобразнага выказвання паэта — у раскіданае гняздо. Гэты унікальны будынак, помнік гісторыі і архітэктуры XX стагоддзя, цяпер называецца Корпус Фрунзе, 5. Ён цалкам перапрацаваны ў банкетную залу. Гулянкі ладзяцца не толькі ў рэстаране, але і ў канферэнц-зале, холах. Жыццёвая прастора Саюза беларускіх пісьменнікаў абмежаваная ўсяго двума пакойчыкамі, дзе не могуць нават змясціцца найкаштоўнейшыя матэрыялы нацыянальнай культуры.

Таварыства беларускай мовы заклікае грамадзян краіны дапамагчы пісьменніцкай арганізацыі абараніць іхні Дом. Дзеля гэтага прапануем накіраваць лісты ў сродкі масавай інфармацыі, у якіх запатрабаваць ад уладаў вярнуць аднаму з самых буйных творчых аб'яднанняў маёмасць, якую яны набылі і заслужылі сваёй сумленнай працай на карысць беларускай культуры.

*Прыняты 17 сакавіка 2004 г.*



# Лінгвістычны тэрарызм у Беларусі ў XX стагоддзі

Сярод шматлікіх праяў тэрарызму ў свеце і асабліва ва Усходняй Еўропе, асобна можна выдзеліць мову тэрарыстаў і іх памагатых. Як правіла, іх мова вельмі неахайная, з выкарыстаннем крымінальнага жаргону і ненарматыўнай лексікі. Гэта робіцца невыпадкова, з мэтай запалохаць і прынізіць простага чалавека, каб ён бяздумна выконваў усе іх загады і патрабаванні.



Найбольш дасканала гэты прыём у XIX і асабліва ў XX стагоддзі праяўляўся ў прадстаўнікоў дзяржаўнага тэрарызму, калі палітыка тэрору, вытокі якой заклала Французская рэвалюцыя XVIII ст, стала ідэалогіяй розных еўрапейскіх краін.

На тэрыторыі Беларусі прадстаўнікі дзяржаўнага і індывідуальнага тэрору актыўна выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах рускую мову ў яе канцылярска-крымінальным варыянце. Прывяду некалькі прыкладаў.

Пад час задушэння народнага паўстання 1863-1864 года, царскія карнікі прымушалі захопленых паўстанцаў даваць паказанні толькі па-руску, нягледзячы на тое, што іх роднымі мовамі былі беларуская ці польская. Кіраўнік карнікаў губернатар Мураўёў адзначаў, што тое, што не зрабіў рускі штых, зробіць рускі настаўнік. З сярэдзіны XIX ст. да рэвалюцыі 1905 г. беларуская мова на Беларусі была забаронена і пастаўлена за межы закона.

Традыцыі графа Мураўёва творча запазычылі бальшавікі, якія займаліся спачатку індывідуальным, як, напрыклад, Сталін ці Катоўскі, а потым і дзяржаўным тэрорам. Давайце ўспомнім "чырвоны тэрор" 1918-1919 гадоў.

Цікава, што ў бальшавіцкім кіраўніцтве этнічна рускіх людзей было няшмат, але ўсе бальшавікі аднадушна выбралі мовай тэрору рускую мову ў яе самым найгоршым варыянце і нават зрабілі моўную рэформу па яе спрашчэнні і вульгарызацыі. Найбольш вылучаліся ў гэтым сэнсе тыя бальшавікі, што дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі. Не будучы рускімі па паходжанні, Мяснікоў (Мяснікян), Ландэр, Берсан, Кнорын (Кнорыньш), Алібегаў (Алібегянц) і іншыя не прызнавалі беларусаў як нацыю і беларускую мову як дзяржаўную.

Актыўна выкарыстоўвалі рускую мову з мэтамі моўнага тэрору карныя савецкія органы пачынаючы з Дзяржынскага. Арыштаваных беларускіх пісьменнікаў, настаўнікаў, палітыкаў, рабочых і сялян прымушалі шляхам розных катаванняў "говорить на нормальном языке". Пачынаючы з 30-х гадоў XX ст., чалавек, які на вуліцы ці ў нейкай дзяржаўнай установе гаварыў на добрай літаратурнай беларускай мове, лічыўся "нацыяналістам" і мог быць арыштаваны па моўнай прыкмеце.

На тэрыторыі Заходняй Беларусі, якую ў 1921 годзе бальшавікі падарылі Польшчы, з мэтай узмацнення дзяржаўнага тэрарызму выкарыстоўвалася польская мова. Людзей, асабліва пісьменнікаў і журналістаў, а таксама простых беларускіх сялян польскія паліцэйскія збівалі за выкарыстанне роднай мовы. У школах, дзе выкладанне вялося па-польску, беларускім дзецям забаранялі размаўляць па-беларуску нават на перапынках. Гэта выклікала абурэнне і акты камуністычнага тэрору ў адказ. Напрыклад, добра вядомая справа Прытыцкага, якая гучна асвятлялася ў тагачаснай прэсе.

Апалагетам моўнага тэрору на тэрыторыі БССР пасля апошняй вайны стаў Мікіта Хрушчоў, які на ганку БДУ заявіў, што беларусы, калі пярэйдуць на рускую мову, адразу стануць жыць пры камунізме.

Даўно ўжо няма СССР, распалася камуністычна-савецкая ідэалогія, але рэцыдывы моўнага тэрарызму ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь засталіся.

Напрыклад, у беларускіх судах нярэдка ёсць факты, калі суддзі адмаўляліся весці працэс на беларускай мове і прымушалі размаўляць па-руску ўсіх удзельнікаў судовага працэсу. Асабліва ад гэтага цярпяць цыганы, якім ніколі не даюць перакладчыка.

Кіраўніцтва Беларусбанка патрабуе ад кліентаў запаўняць анкеты для атрымання пластыкавых картак толькі па-руску. У рускамоўных школах дзецям забараняюць нават запаўняць дзённікі на роднай мове. Як тут не прыгадаць заходнебеларускую школу часоў Пілсудскага! Няўжо гэта магчыма ў незалежнай Беларусі?

Усе вышэйзгаданыя факты могуць прывесці да расколу беларускага грамадства і з'яўіцца глебай для індывідуальнага тэрарызму на моўнай глебе. Гэта добра разумеюць грамадзяне нашай краіны, якія неаднаразова звярталіся ў Канстытуцыйны Суд па вышэйзназанай праблеме.

У снежні 2003 г. Канстытуцыйны Суд прыняў рашэнне, у якім адзначалася парушэнне дзейнай Канстытуцыі краіны ў сферы роўнасці двух дзяржаўных моў. Цяпер неабходна як мага хутчэй унесці адпаведныя папраўкі ў Закон "Аб мовах", каб выкараніць на заканадаўчым узроўні моўную дыскрымінацыю грамадзян Беларусі ва ўсіх сферах грамадскага і асабістага жыцця.

**Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Алег Трусаў.**

***(Выступ на Міжнароднай канферэнцыі "Забеспячэнне канстытуцыйных правоў і свабод як гарантыя прадухілення тэрарызму.")***

# Юбілей клуба "Спадчына"

30 сакавіка спаўняецца 20 год дзейнасці культурна-асветнамга клуба "Спадчына". Гэта адна з першых беларускіх суполак у краіне, якая пачала актыўную дзейнасць па прапагандзе і папулярызацыі беларускай культуры і гісторыі. Арганізатарам клуба стаўся вядомы калекцыянер і грамадска-культурны дзеяч, выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта Анатоль Яўхімавіч Белы, які сабраў групу руплівцаў беларушчыны з менскай інтэлігенцыі. Яны і стварылі клуб – "Спадчына".



**Кіраўнік клуба "Спадчына" Анатоль Белы каля помніка Наталлі Арсенневай у Старых Дарогах**

Пачатак дзейнасці клуба "Спадчына" быў нялёгкім. Ва ўмовах пастаяннага ціску з боку камуністычнай партыйнай улады арганізатары клубу абралі раду, якая працавала ў некалькіх кірунках культурна-асветнай дзейнасці. Такім чынам, ладзіліся мастацкія выставы, паказ калекцый Анатоля Белага (карцін, медалёў і інш.) Некаторыя выставы забараняліся гарадскімі ўладамі, як, напрыклад, выстава медальернага мастацтва ў Доме прафсаюзаў (бо там былі прадметы з выявамі "Пагоні", а гэтага і тады ўлада знесці не магла). Тым не менш, дзякуючы настойлівасці і мэтанакіраванасці старшыні клуба "Спадчына" Анатоля Белага, арганізацыя выставаў працягвалася, асабліва после абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Яны карысталіся вялікім поспехам. Тэмы выставаў былі патрыятычнымі: "Максім Багдановіч", "Францішак Скарына", "Кастусь Каліноўскі і паўстанне 1863 г. на Беларусі", "Уладары старажытнай Беларусі", "Дзеячы беларускага замежжа". А. Белы вывозіў гэтыя выставы ў Яраслаўль і ў ЗША.

У першы перыяд дзейнасці клуба, да 1991 года, асаблівую ўвагу рада клуба надавала асветніцкай дзейнасці ў галіне гісторыі Беларусі.

І гэта зразумела чаму. Дваццаць гадоў таму амаль ніхто не ведаў гісторыю нашай краіны, як цяпер ведаюць яе і школьнікі. Таму клуб стаўся адным з некалькіх асяродкаў на Беларусі, дзе слухачы сустракаліся з тымі адзінкамі з гісторыкаў, хто стаяў на нацыянальных пазіцыях у разглядзе нашай мінуўшчыны. Добра памятаю, як Анатоль Белы ў 1984 г. адразу пасля стварэння клуба, запрашаў мяне чытаць цыкл лекцый па гісторыі Беларусі, як чытаў свае лекцыі Мікола Ермаловіч, якога я падтрымліваў амаль з пачатку яго дзейнасці. Аднойчы, калі выступаў М. Ермаловіч, у зале прысутнічала загадчыца аддзела прапаганды і агітацыі Менскага гаркама КПБ. Пасля лекцыі я выступіў і назваў веды Міколы Ермаловіча акадэмічнымі ("Нават супрацоўнікі інстытута гісторыі не ведаюць усіх тых фактаў, якія сабраў у летапісах і літаратуры Мікола Ермаловіч і калі б акадэмічныя званні размяркоўвалі б не па палітычных меркаваннях, то М. Ермаловіч быў бы акадэмікам"). Чамусьці пасля гэтай лекцыі выклікалі ў гаркам не мяне, а Анатоля Белага. Хіба на мяне ўжо махнулі рукой. Сярод слухачоў было шмат тагачаснай моладзі. Некаторыя з іх сталіся палітычнымі дзеячамі (нават ёсць і такія, што ўваходзяць у кіраўніцтва палітычных партый). Лекцыі чытаў у клубе і прафесар Міхась Ткачоў, калі прыязджаў у Менск з Гародні. З якім захапленнем слухалі людзі гэтыя лекцыі (асабліва, М. Ермаловіча). Такім чынам, асветніцкая дзейнасць клуба "Спадчына" была вельмі актыўнай.



**Сябры клуба "Спадчына" ўстанаўліваюць помнік Міколу Ермаловічу ў Маладэчне**

"Спадчына" выдала тры альманахі ў 1994, 1996 і 1998 гг. пад назвай "Спадчына" і "Скрыжалі "Спадчыны" з гістарычнымі нарысамі, вершамі ўдзельнікаў клуба, эсэ і інш.

У 90-х гадах клуб выдаваў плакаты-календары і кнігу А. Белага і Л. Лыча "Прымалі закон аб мовах" (1995).

На дабрачынныя сродкі і ахвяраванні клубам былі зроблены і пастаўлены ў Яраслаўлі помнік М. Багдановічу (1994), аўтар С. Вакар) і шыльда на будынку, дзе ў 1915 – 1918 гг. у эвакуацыі дзейнічаў Менскі настаўніцкі інстытут (1995, аўтар А. Шатэрнік). У Менску былі пастаўлены помнікі Ф. Скарыну, М. Гусоўскаму, Ефрасінні Полацкай (таксама і ў Полацку), у Халопенічах – бюст А. Багдановічу.

Асобна трэба адзначыць і стварэнне прыватнга музея Анатоля Белага ў Старых Дарогах, дзе адчынена карцінная галярэя, а перад сядзібай музея пастаўлены помнікі дзеячам беларускай культуры.

Клуб "Спадчына" назапасіў багаты досвед культурна-асветніцкай дзейнасці. У клубе рэгулярна праводзяцца паседжанні. Сябры клуба адзначаюць выдатныя падзеі ў грамадскім і культурным жыцці Беларусі, адзначаюць юбілеі сяброў клуба і выдатных дзеячаў, якія супрацоўнічаюць з клубам. На паседжанні клуба запрашаюцца навукоўцы, літаратары, грамад-скія дзеячы, абмяркоўваюцца іх навуковыя паведамленні.

Клуб "Спадчына" дзейнічае і цяпер у агульным рэчышчы беларускага Адраджэння.

Ён з'яўляецца асобнай суполкай Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і па-ранейшаму дзейнічае актыўна. У сувязі з юбілеем віншую чальцоў клуба "Спадчына" і яго старшыню Анатоля Белага і зычу новых поспехаў у нашай агульнай беларускай справе.

***Ганаровы сябра клубу "Спадчына" Анатоль Грыцкевіч.***

# Справаздача аб дзейнасці Баранавіцкай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

На працягу 2002-2003 гадоў у нашай арганізацыі былі, як пэўныя дасягненні, так і страты, і, безумоўна, недахопы. У 2002 годзе памёр выдатнейшы наш сябар і змагар за вольную і дэмакратычную Беларусь Міхась Барысевіч. Летам 2003 года пакінулі нас таленавіты баранавіцкі паэт Венанцы Бутрым і вязніца сталінскага ГУЛАГу Тафіля Сцяпанаўна Дудко, якія назаўсёды застануцца ў нашай памяці як прыклад працаздольнасці, шчырасці і бескарыснасці ў нашай адраджэнскай справе. Думаю, што нашая сумленная праца на карысць Бацькаўшчыны будзе найлепшым доказам павагі і памяці гэтых шчырых беларусаў.

Візітовай карткай нашай арганізацыі стала штотыднёвая радыёперадача "Люблю наш край", якая выходзіць на Баранавіцкім радыё кожную сераду а 22.05. Дарэчы, кіраўніцтва Баранавіцкага радыё ўжо трэці раз мяняе наш эфірны час, што перашкаджае нам мецць сталых радыёслухачоў. Вядоўцам гэтай перадачы быў напачатку Алесь Горбач, а цяпер – Наталля Урублеўская, якая раней была адказная за літаратурную частку радыёперадачы. На працягу 2002-2003 гг. выйшла 89 радыёперадач, прысвечаных найгалоўнейшым падзеям з нашае гісторыі і культуры. Паступова склаўся творчы калектыў, сістэматычна ўводзяцца новыя рубрыкі, пад увагу бяруцца, найперш, непазнаныя тэматычныя кірункі і гістарычныя падзеі. Ад самага пачатку і па сёння гісторыкі і краязнаўцы Міхась Бернат, Віктар Сырыца і Васіль Дубейка распавядаюць радыёслухачам пра гісторыю нашага краю. А літаратурныя юбілеі, гісторыя беларускага мастацтва не застаюцца без увагі дзякуючы супрацоўнікам Цэнтральнай бібліятэкі імя В. Таўлая Наталлі Урублеўскай і Валянціне Лапато, Алене Барзілавай, Ліліі Сяргейчык. І, безумоўна, пастаянным радыёслухачам добра знаёмы голас Лідзіі Аляксандраўны Антановіч, ад якой можна пачуць шмат цікавага з народнага каляндара, пра прыкметы і паверы нашых продкаў, гісторыю беларускіх гарадоў і мястэчак. У 2003 годзе мы распачалі маладзёвы цыкл "Музыка маладой Беларусі", які вельмі ўдала вядуць аматары музыкі Яўген Домаш і Андрэй Шастак.

2002 год мы распачалі з ўшанавання памяці Міхася Ткачова, які так шмат зрабіў для нашай культуры і дзяржаўнасці. На ўрачысты сход, які адбыўся 3 сакавіка, былі запрошаны Алег Трусаў і Міхась Чарняўскі. Вечарына прайшла вельмі плённа і цікава.

У 2002 годзе Баранавіцкая Рада ТБМ правяла вельмі шмат мерапрыемстваў, прысвечаных 200-м угодкам з дня народзінаў Ігната Дамейкі: правялі віктарыну для моладзі, а Юля Плотнікава арганізавала футбольны турнір паміж дваровымі камандамі ў гонар нашага земляка, выпусцілі каляровы каляндарык з выявою Ігната Дамейкі. Сябры арганізацыі напісалі шмат артыкулаў у мясцовых газетах пра жыццё і грамадска-навуковую дзейнасць слаўнага сына беларускай зямлі. Рада двойчы звярталася ў Баранавіцкі гарвыканкам, а таксама мела сустрэчы з старшынём гарадскога Савета дэпутатаў У. Стахновым дзеля стварэння музея Ігната Дамейкі ў гімназіі № 4 і прысваення адной з школ горада імя сусветнавядомага навукоўца. Але гарадскія ўлады не пайшлі далей гэтых сустрэч, як і адмовіліся правесці гарадскую навуковую канферэнцыю, прысвечаную Грандэ Адукатару.

У гэтым жа 2002 годзе мы вельмі добра адзначылі юбілей нашага земляка з вёскі Лясная Уладзіслава Галубка. У газеце "Наш край" надрукавалі віктарыну ў гонар бацькі беларускага вандроўнага тэатру. Супольна з гарадской Цэнтральнай бібліятэкай правялі імпрэзу, прысвечаную Уладзіславу Галубку. У дзень юбілею мы паехалі на радзіму пісьменніка ў вёску Лясная (Баранавіцкі раён). Тамака наведалі Ляснянскую школу, вучні якой пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай мовы Пакіненe Г. У. стварылі музей Галубка, якому мы перадалі шмат чаго карыснага. Тут адбылася святочны канцэрт і ганараванне пераможцаў віктарыны з нагоды 120-х угодкаў з дня народзінаў Уладзіслава Галубка.

10 лістапада 2002 года Баранавіцкая Рада ТБМ правяла святочную імпрэзу, прысвечаную 120-ці годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. На працягу года ўрачыстасці з гэтай нагоды адбываліся амаль ва ўсіх навучальных установах гораду, праводзіліся вандроўкі ў Вязынку і Акінчыцы. На гэтую галоўную культурніцкую падзею года былі запрошаны ў Баранавічы з Менску Алег Трусаў, Генадзь Бураўкін і Алена Анісім. Сустрэча з менскімі сябрамі прайшла надзвычай цікава і плённа. Падчас святочнага канцэрту яны адзначылі пераможцаў віктарыны у гонар класікаў беларускай паэзіі і літаратуры, а таксама ўзнагародзілі баранавіцкіх рупліўцаў ганаровымі падзякамі за адраджэнскую працу. Падчас святочнага канцэрту ганараваліся такія вядомыя асобы ў нашым горадзе, як паэты Венанцы Бутрым, Алесь Корнеў і Іван Лагвіновіч, галоўныя рэдактары часопісаў "Рэгіён" Ігар Тышкевіч, а таксама "Рыцар свабоды" і "Res publika"– Уладзімір Гундар, галоўны рэжысёр аматарскага тэатру "Тужлівы панядзелак" Міхась Стрыжоў, намеснік галоўнага рэдактара газеты "Наш край" Міхась Шубіч.

Хацеў бы адзначыць, што да нас на творчыя сустрэчы прыязджалі такія знакамітыя асобы, як Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Арлоў, Віктар Шалкевіч, Рыгор Барадулін, Міхась Чарняўскі, Анатоль Сідарэвіч, Вольга Іпатава. Падчас такіх сустрэч мы стараліся распаўсюдзіць як мага болей гістарычнай і навуковай літаратуры, касетаў ці дыскаў (толькі "150 пытанняў і адказаў па гісторыі Беларусі" мы прадалі 130 асобнікаў). Праўда, з-за татальнага збяднення насельніцтва становіцца ўсё цяжэй і цяжэй прадаваць кнігі нават Васіля Быкава, Вольгі Іпатавай, Уладзіміра Арлова, тым больш каляровыя ТБМаўскія каляндарыкі ці мясцовую музычную і літаратурную прадукцыю (дыскі Галіны Ярашэвіч "Ларысіна танга" і "Братка-беларус" – баранавіцкага гурта вандроўных музыкаў "Фэст", якія не саступаюць па сваёй якасці і вартасці больш вядомым шлягерам).

За справаздачны перыяд у нашым горадзе пабачылі свет наступныя зборнікі вершаў баранавіцкіх паэтаў: "Боскі вецер правінцыі" (Алесь Белы), "Грае раніца зару" і "Нязгаслыя яскі" (Алесь Корнеў), "Вяртанне ў лета" (Браніслава Лапкоўская-Прушынская), "Сцежка ў дзяцінства" (Раіса Раманчук), "Паралелі" (Венанцы Бутрым), "Ляда юдолі" (Іван Лагвіновіч). Гэтыя паэтычныя творы выйшлі дзякуючы намаганням творчага згуртавання "Святліца" (старшыня Алесь Бакач) і сяброў ТБМ. Ужо стала добрай традыцыяй рабіць прэзэнтацыю гэтых твораў, а таксама арганізоўваць творчыя сустрэчы мясцовых паэтаў з баранавіцкімі чытачамі, найперш моладдзю. За гэты час адбылося 12 такіх паэтычных вечарын, на якіх гучала не толькі родная мова, але і беларуская песня.


БАРАНАВІЦКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ
ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ
імя Францішка Скарыны
У гонар 120-х угодкаў з дня народзінаў
*Якуба Коласа і Янкі Купалы*
**ПАДЗЯКА**
***Алесю Корневу***
**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**
Старшыня Баранавіцкай Рады ТБМ Віктар Сырыца

*Падзяка, якая ўручаецца Баранавіцкай радай ТБМ*

Сябры ТБМ супольна з іншымі дэмакратычнымі партыямі і арганізацыі горада традыцыйна прымаюць самы актыўны ўдзел у святкаваннях угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. З гэтай нагоды ў гарадскім Доме афіцэраў (2002 г.) і палацы тэкстыльшчыкаў (2003 г.) прайшлі святочныя імпрэзы з удзелам навукоўцаў і знакамітых артыстаў. Адначасова мы друкуем шмат артыкулаў у гонар Дня Волі, тлумачым нашым жыхарам асноўныя ідэалы Акта 25 сакавіка.

У 2003 годзе мы правялі віктарыну і святочны мітынг, прысвечаны 140-м угодкам вызвольнага паўстання 1863 года. Фэст ладзіўся ў вёсцы Мілавіды (Баранавіцкі раён), дзе адбылася самая вялікая бітва касінераў Кастуся Каліноўскага з царскімі карнікамі.

Сябры нашай арганізацыі прынялі самы актыўны ўдзел ва ўрачыстых пахаваннях Васіля Быкава. 24 чэрвеня 2003 года мы правялі жалобны сход, на якім ушанавалі памяць Васіля Быкава, а вядомы тэатральны дзеяч Васіль Стрыжоў прачытаў урывак твора Васіля Быкава "На чорных лядах". 25 чэрвеня 32 чалавека нашай арганізацыі з кветкамі і жалобным вянком паехалі ў Менск, каб прыняць удзел у надзвычай важнай грамадзянскай акцыі.

Баранавіцкая Рада ТБМ штогод прымае актыўны ўдзел у святкаванні Дня беларускага пісьменства і друку. У гэты час праводзім агульнагарадское культурніцкае мерапрыемства, абавязкова прэзентуем зборнік вершаў мясцовых паэтаў, якіх у нас вельмі шмат. Для настаўнікаў школ горада рыхтуем віктарыны, інфармацыю пра гісторыю свята і тое месца, якое стала цэнтрам святкавання дня беларускай культуры. У мясцовых газетах друкуем артыкулы ў гонар найгалоўнейшых асоб нашай Бацькаўшчыны.

Вось ужо становіцца добрай традыцыяй некалькі разоў у год выязджаць у вёскі Баранавіцкага раёна для сустрэчы з людзьмі і прапаганды роднага слова і культуры сярод вяскоўцаў.

15 лістапада 2003 года група сяброў Баранавіцкай Рады ТБМ наведала вёску Крашын. У Крашынскай школе праходзіў паэтычны тыдзень у гонар слаўнага беларускага паэта Паўлюка Багрыма. Імпрэзу ўрачыста адкрыла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Голас Ліля Іванаўна. Затым вучням расказалі пра дзейнасць гарадской арганізацыі ТБМ, пра друкаванне газеты "Баранавіцкі футбол" на беларускай мове, пра газету баранавіцкіх школьнікаў "Вясёлы перапынaчак", пра друкаванне зборнікаў вершаў мясцовых паэтаў. Затым свае вершы чытаў аўтар чатырох зборнікаў вершаў паэт Алесь Белы і паэтка Раіса Раманчук. Яны падаравалі свае зборнікі вершаў дзецям і настаўнікам. Сустрэча з баранавіцкімі паэтамі скончылася цудоўнымі песнямі, якія выканалі Галіна Ярашэвіч і Алесь Грыцавец. А напрыканцы дамовіліся з настаўнікамі правесці ў будучым годзе паэтычны конкурс у гонар Паўлюка Багрыма паміж навучэнцамі горада і раёна. Наведаўшы магілку Паўлюка Багрыма і ўсклаўшы ля яе кветкі, мы паехалі ў Баранавічы з надзеяй і марамі пра будучы паэтычны маладзёвы конкурс.

Супольна з пратэстантамі горада файна адзначылі 450-я ўгодкі Рэфармацыі на Беларусі і падчас гэтай імпрэзы ганаравалі пастара Царквы Веры Евангельскай С. Пазднякoвіча за прапаганду роднага слова ў казаннях і друку. Баранавіцкія пратэстанты ўразілі усіх удзельнікаў святочнай вечарыны цудоўным канцэртам і шчырымі прамовамі на беларускай мове.

Сябры нашай арганізацыі прымаюць актыўны ўдзел таксама ва ўсіх мерапрыемствах, якія плануе Рэспубліканская Рада. У гэтым годзе ўжо сабралі 420 подпісаў у абарону сядзібы ТБМ.

А праблемаў у нас вельмі шмат. Да гэтага часу не маем сваёй сядзібы ў горадзе. З вялікімі цяжкасцямі і намаганнямі спрабуем аднавіць друкаванне беларускамоўнай газеты "Баранавіцкае слова". Не маем сваіх структур у вышэйшых навучальных установах горада, не змаглі стварыць за гэтыя часы раённую суполку ТБМ.

Вось так жывём і працуем на карысць адраджэнцкай справы з надзеяй, што калі-небудзь загляне сонца і ў наша ваконца.

***Віктар Сырыца.***




*Кнігі баранавіцкіх аўтараў, выдадзеныя пры ўдзеле ТБМ*

# Успаміны пра родную вёску

Днямі, слухаючы на "Свабодзе" перадачу пра беларускія вёскі і яе жыхароў, зноў балюча ўзгадаў лёс вёскі майго дзяцінства. Так здарылася, што трапіўшы ў бібліятэку дзяржаўнага архіву Літоўскай рэспублікі, я знайшоў там кнігі, ад якіх немагчыма было адарвацца. Гэта "Памятные книжки Витебской губернии" за некалькі апошніх год 19-га і пачатку 20 стагоддзя. І кніга "Список населённых мест Витебской губернии", выдадзенай Віцебскай друкарняй у 1906 годзе.

Вёска майго дзяцінства — Смяшкова Дабейскага сельсавета Шумілінскага раёна (паводле сённяшняга адміністрацыйнага дзялення) — знаходзілася ў Міхалоўшчанскай воласці (адміністрацыя воласці была ў вёсцы Любічы) Полацкага павету.

Што ўяўляла сабой вёска ў 1905 годзе?

Чытаю: вёска Смяшкова знаходзіцца пры вадзе возера Дабея, уваходзіць у Боськаўскую сельскую супольку (абшчыну), мае ворнай зямлі 65 дзесяцін (каля 130 га), няўдобіцы — 34 дзесяціны, зямлі пад лесам няма. Лік двароў — 9, мужчынскага полу — 29 асобаў, жаночага — 26. Усе належаць да Дабейскага прыходу (царква ў Дабеі была пабудавана ў 1793 годзе з цэглы, побач — дом святара і царкоўна-прыхадская школа. Царква мела бляшаны — зялёнай афарбоўкі — дах, а над ім цыбулепадобны купал з 4 франтонамі на барабане; 5 вялікіх і 12 малых ваконных праёмаў і ўнутры мураваны іканастас. Дзядуля мой казаў, што Напалеон, які рухаўся ў бок Бешанковіч летам 1812 г., загнаў коней у царкву на адпачынак).

Дык вось, у гэтай вёсцы прайшлі мае дзіцячыя гады (1941 — 1956). Царкву знішчылі партызаны ў час вайны. Вайна знішчыла 4 хаты, некалькі жыхароў. Некалькі чалавек не вярнуліся з вайны. Але па вайне ў галоднай, халоднай вёсцы цяплілася жыццё, дзеці хадзілі ў школу (в. Дабею), бегалі на возера, а вечарамі збіраліся "на сяло" да якога-небудзь суседа і слухалі размовы, успаміны старэйшых, ці займаліся нейкімі гульнямі. Людзі працавалі ў калгасе (ён з'явіўся там у далёкім 1925 годзе), працавалі задарма, будавалі хаціны.

У 1950 годзе ў вёсцы было 13 хат і прыкладна 55 жыхароў. Людзі хацелі выжыць, выхаваць дзяцей. Печы палілі хмызняком, які цягалі летам на плячах, а зімой на санчаках (лесам яго назваць нельга, бо не давалі адрастаць лазе і алешніку, які высякалі на паліва). З гэтых кустоў і вялікага балота насілі ў мяхах і розлях асаку і траву для сваіх каровак. Жалі сярпамі, насілі на сваіх плячах, бо калгас не даваў сенажацяў. Кожная хата была абкладзена невыноснымі падаткамі. Сям'ю і жывёлу, на якую пачалі разжывацца людзі, карміў кавалак зямлі каля хаты памерам 40-50 сотак. Не ўсе мелі такія кавалкі, а толькі тыя, у каго ўсе дарослыя з хаты працавалі у калгасе. Удовы мелі лепшыя кавалкі. За год рабскай працы ў калгасе сем'і атрымлівалі ўзнагароду — 1-2 мяхі гірсы. Было такое зерне, якое ўжывалі як дамешак для выпечкі хлеба. Хлеб атрымліваўся калючы, як вожык. Не ўсе маглі пахваліцца і такім хлебам. Самым даражэйшым ласункам дзяцінства была скібачка хлеба, пасыпаная соллю. Нічога смачнейшага ў жыцці не ведалі.

Разбурэнне вёскі пачалося праз 5-8 год пасля заканчэння вайны. Хлопцы, якіх забіралі ў армію, больш ніколі не вярталіся дадому, яны асядалі ў капальнях Данбаса, у Карэліі на нарыхтоўцы лесу. Тыя, хто нёс службу ў Маскве, там заставаліся. Ім зайздросціла моладзь, якая не змагла збегчы з вёскі, з калгаса.

Але хутка прыйшоў 1954 год і пацягнуўся з нашага наваколля люд на асваенне цалінных і абложных зямліц Казахстана, Сібіры і інш., а крыху пазней — на будоўлі веку — Навапалацкую вялікую хімію, нафтавыя гіганты, ГЭСы, комплексы і г. д. Але ў вёсцы яшчэ заставаліся людзі: старыя, якія перажылі вайну і калгасны прыгон, маладыя, якім не пашэнціла з'ехаць. У калгасе з'явілася тэхніка, нейкая палёгка ў працы. Але ж прыйшло п'янства, якое пачало касіць людзей.

І вось сёння ў вёсцы Смяшкова стаяць 8 хат, а жывуць людзі толькі ў трох. 5 хат стаяць з забітымі вокнамі, толькі летам сюды прыязджаюць на некалькі дзён сваякі былых гаспадароў. А ў трох хатах жывуць: у першай — самыя "маладыя", муж і жонка, якім пераваліла за 70, у другой — адзінокая жанчына з адным зубам у роце, а ў трэцяй — трое хворых старых, інваліды. Усяго сёння ў вёсцы 6 чалавек, 3 каровы, 3 сабакі (сабакі бароняць ад злодзеяў-п'янчуг). Катоў цяжка палічыць, бо яны здзічэлі. А ўся тая зямля, якая была падзелена ў 1905 годзе на шнуры і за якую часта сварыліся суседзі, сёння нікому не патрэбна. Лаза і алешнік буйна падняліся і падыходзяць па агародах да ганкаў. Дровы цяпер растуць на панадворках.

А навакольныя вёскі з той жа кнігі выглядаюць так.

***Дзедаўшчына, Зянкоўшчына, Дайліды*** знішчаны ў гады калектывізацыі (да вайны), у 50 гады зніклі Кузавоўшчына, Зызкі, Слабодка — некалькі год таму. Астатнім засталося жыць вельмі мала.

У 1905 годзе ў Міхайлоўшчынскай воласці было 129 вёсак, зямлі 22931 дзесяціны і 10320 жыхароў. Сёння ў Дабейскім сельсавеце (ён крыху меншы за воласць) захавалася толькі зямля і меней 1/3 абязлюдзеных вёсак. І працэс знікнення набірае моц.

Што сталася з тымі сялянамі, хто збег з вёсак? Ці сталі мае аднагодкі, былыя суседзі больш шчаслівымі і заможнымі, збегшы ў гарады і на будоўлі? Пра некаторых не ведаю, бо згубіліся ў віры часу. Але вельмі сумняваюся, што іх жыццё палепшылася. Нямногія спіліся, некаторых загнала ў труну нафтахімія, атручаная экалогія і цяжкая чорная і брудная праца. Праўда, горад ім даў пакойчык у інтэрнаце, а потым двухпакаёўку ў хрушчобе і 2 дні на тыдзень адпачынку. Але амаль ніхто з іх не адпачываў, бо спяшаліся яны ў вёску дапамагаць бацькам і блізкім апрацоўваць агародчыкі, нарыхтоўваць сена, дровы ды ўзяць сабе ў горад торбу бульбы, гароднiны і слоік малака. І ўжо амаль 100 год — і пры былым развітым сацыялізме і пры сённяшняй рынкавай дэмакратыі — нікому з дзяржаўных структур няма ніякай справы ні да вёскі, ні да яе жыхароў, якія кармілі і палілі гэтыя ненажэрныя структуры. Застаўшыяся сяляне, сёння пакінутыя нават роднымі, ціха паміраюць разам з вёскамі. Цяжка сказаць, колькі ў раёне знікла вёсак ад часоў рэвалюцыі да сённяшняга дня, але затое разраслося Шуміліна, якое ў 1905 годзе налічвала 7 хат, 27 мужчынаў і 23 жанчыны. Дзесьці да сярэдзіны 60 гадоў мінулага стагоддзя гэты раённы цэнтр нагадваў звычайную вёску, вялікую, пыльную з Домам культуры, помнікам Леніну, вайсковымі магілкамі і сярэдняй школай.

У канцы 60-х у беларускіх райцэнтрах пачалі атабарывацца сельгасхімія, меліярацыя, межкалгасбуды, быткамбінаты і іншыя арганізацыі. Пачаўся будаўнічы бум: кожная арганізацыя пачала ўзводзіць шматпавярховыя цагляныя дамы для чынавенства і перадавікоў працы, партыйнага актыву. Гвалтоўна зносілі прыватныя хаты, знішчалі сады, высякаліся прыдарожныя дрэвы.

Гэтыя "гмахі" засяляліся толькі райкамам партыі ці райвыканкамам "патрэбнымі людзьмі", туды траплялі і "стаханаўцы", некаторыя рабочыя, зразумела, за хабар. Многа патрэбна было папіць гарэлачкі з чыноўнікам і палажыць у кішэню, каб атрымаць пакойчык. Я не памятаю ніводнага выпадку, каб хто з настаўнікаў атрымаў кватэру. Апрача дырэктараў-камуністаў звычайныя настаўнікі былі ў вачах райкама партыі людзьмі самага ніжэйшага гатунку. Яны кожную восень, замест працы ў школе, капалі голымі рукамі бульбу ў калгасах разам з вучнямі і круглы год кожны тыдзень беглі раніцай ці вечарам на калгасную ферму весці палітінфармацыі ці запэўніваць калгаснікаў, што яны жывуць шчасліва і добра.

Атрымаўшы кватэры, новая эліта пачала гаспадарыць у сваім жытле. Найперш — шклілі балконы. Рамы рабіліся на свой густ, шкло выкарыстоўвалі звычайнае і каляровае, а зямля, якую пакінулі для газонаў каля дамоў была падзелена, часта ў бойках, паміж жыхарамі. Захопленыя лапікі ператварылі ў агародчыкі, якія хутка абнеслі плотам-парканам, штакетнікам, дротам, простым ці калючым, — хто што мог "дастаць" ці ўкрасці, тым і агароджваліся. Рэдка можна ўбачыць на гэтых палетках кветкі — бульба, буракі, сланечнік, капуста, а для памідор — плёначная цяпліцы свайго праекту і, зразумела, з падручнага матэрыялу.

І калі едзеш па шашы Віцебск — Полацк — Рыга, то ўязджаеш у Шуміліна, як у горад з фільмаў-жахаў.

Тое, што назіраеш сёння на нашай малой Радзіме (і не толькі на ёй) — гэта яркі прыклад гаспадарання бальшавіцкіх кіраўнікоў, "преобразователей природы", творцаў новага чалавека — Homo Soveticus.

*Павел Саўчанка*
*Вільня, люты 2004 г.*

## Вёскі Дабейскага прыходу ў 1905 г.

| № | Назва | Зямлі ворнай (дзесяціны) | Няўдобіцы (дзесяціны) | Пад лесам | К-сць двароў | Муж. | Жан. | Прыход |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Слабодка | 70 | 27 | - | 12 | 42 | 41 | Дабейская царква |
| 2. | Мерзлякі | 262 | 45 | - | 32 | 123 | 101 | |
| 3. | Дабея | 65 | 34 | - | 9 | 29 | 26 | |
| 4. | Дзедаўшчына | 20 | 2 | - | 2 | 9 | 4 | |
| 5. | Ільлінцы (дабейскія) | 59 | 14 | - | 10 | 54 | 43 | |
| 6. | Пагост Дабея | 40 | 10 | 10 | 2 | 7 | 4 | |
| 7. | Зызкі (належаць мешчаніну Зайцаву) | 30 | - | 10 | 3 | 8 | 9 | |
| 8. | Кузавоўшчына | 198 | 9 | - | 13 | 44 | 43 | |
| 9. | Зянкоўшчына | 45 | 9 | - | 5 | 16 | 15 | |
| 10. | Дайліды | 30 | 14 | - | 2 | 14 | 7 | |

СЛАВУТЫЯ СУАЙЧЫННІКІ

# Сваіх землякоў трэба ведаць

## (Павел Паўлавіч Кабека)

Імя выдатнага савецкага фізіка Паўла Паўлавіча Кабекі ў Беларусі вядома цяпер параўнальна вузкаму колу спецыялістаў ды яго землякам аднавяскоўцам. А між тым ён на працягу амаль 30 гадоў стаяў на перадавых рубяжах навукі, стварыў сваю навуковую школу. Многія яго ідэі, распрацоўкі пакладзены ў аснову сучаснага разумення аморфных рэчываў.

Нарадзіўся Павел Паўлавіч 23 чэрвеня 1897 г. у Вільні. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі у в. Кудрычы Мсціслаўскага павета. У 1917 г. скончыў Мсціслаўскую гімназію. Летам 1917 г. мабілізаваны ў армію, служыў малодшым яфрэйтарам у Невелі, а ў кастрычніку дэмабілізаваўся па стану здароўя. У 1924 г. скончыў Горыцкі сельскагаспадарчы інстытут і быў узнагароджаны званнем вучонага агранома. З 1925 г. у Ленінградзе, у фізіка-тэхнічнай лабараторыі пры фізіка-тэхнічным рэнтгенаўскім інстытуце быў прызначаны дапаможным работнікам і ўключаны ў навуковую працу – даследаваў электраправоднасць шкла, палімерызацыю высыхаючых масляў, пачаў вывучаць фізіку цвёрдага цела. Разам з І.В. Курчатавым даследваў дыэлектрычныя ўласцівасці сегнетавай солі. Нарэшце сегнетаэлектрыкі не вытрымалі перад настойлівасцю і захапленнем даследчыкаў і адкрылі свае таямніцы. Праца Кабекі і Курчатава, якая адкрыла новы раздзел фізікі цвёрдага цела – сегнетаэлектрычнасць, прыцягнула ўвагу фізікаў і электратэхнікаў ва ўсім свеце. Неарганічныя сегнетыкі сталі прымяняцца для стварэння малагабарытных кандэнсатараў у радыётэхнічнай апаратуры. У 1928 г. яны прапанавалі першую тэорыю выпраменьвальнага дзеяння паўправаднікоў. Гэтыя даследванні прынеслі П. П. Кабеку "сусветную вядомасць".

П. П. Кабеку цалкам захапілі аморфныя рэчывы, і ў прыватнасці палімеры, іх ён лічыў самай важнай і цікавай галіной.

У пачатку 30-х гг. працаваў у галіне фізікі і фізічнай хіміі аморфных рэчываў, у тым ліку высокамалекулярных злучэнняў, вывучаў спецыфічныя ўласцівасці палімераў і кінетычныя працэсы палімерызацыі. Гэтыя даследванні адкрылі галіну ў фізіцы цвёрдага цела. Кабека абгрунтаваў кірунак, які ў фізіцы называецца – аморфны стан рэчыва. На аснове прагрэсіўных малекулярна-кінетычных уяўленняў Кабека паказаў безупынаснасць паняццяў газ – вадкасць – шклопадобны (аморфны) стан.

У час фінскай вайны П. Кабека з супрацоўнікамі Фізтэха па тэрміновым заданні зрабіў пластыкавыя бронеплиты для самалётаў. Распрацаваў метад барацьбы з абледзяненнем самалётаў на аэрадромах. Пазней ён атрымаў вадкасць для амартызатараў самалётаў, якая мела нізкі тэмпературны каэфіцыэнт вязкасці.

Шэраг прац напісана ім сумесна з іншымі вучонымі.

У 1935 г. абараніў дысертацыю на атрыманне вучонай ступені доктара тэхнічных навук, у 1936 г. зацверджаны ў званні прафесара на кафедры "Электрафізіка". Быў членам спецыяльнай "Тэхнічнай камісіі па рэалізацыі абаронных прапаноў і вынаходніцтваў".

У жніўні 1941 г. – ён навуковы кіраўнік Ленінградскага філіяла Фізіка-тэхнічнага інстытута, а з чэрвеня 1942 г. па 1945 г. – яго дырэктар.

Выключна важную ролю адыграў П. П. Кабека у наладжванні аўтамабільнай трасы праз Ладажскае возера. З вясны 1942 г. П. П. Кабека кіраваў размагнічваннем караблёў. Супрацоўнікі яго філіяла расшыфравалі механізм дзеяння варожых мін.

29 верасня 1943 г. Павел Кабека быў абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР па спецыяльнасці "Эксперыментальная фізіка". З 1944 г. – загадчык кафедры фізікі дыэлектрыкаў і палімераў Палітэхнічнага інстытута, а з 1974 г. – намеснік дырэктара Фізіка-тэхнічнага інстытута па навуковай рабоце.

У 1945 г. у званні падпалкоўніка кіраваў групай навуковых эксперыментаў па абследванні прамысловых прадпрыемстваў Ленінграда і вобласці на вызваленых ад супраціўніка тэрыторыях. З 1949 г. намеснік старшыні Камісіі па дыэлектрыках, якая каардынавала навуковую дзейнасць у галіне даследвання і тэхнічнага прымянення іх. З 1952 г. – загадчык лабараторыі механічных і фізічных уласцівасцяў палімераў Інстытута высокамалекулярных злучэнняў АН СССР.

Аўтар звыш 100 прац.

У 1953 г. цяжка захварэла і памерла яго жонка, Соф'я Уладзіміраўна, гэтую страту Павел Паўлавіч глыбока перажываў. Абвастрылася старая блакадная хвароба – хранічная пнеўманія, дрэнна зрабілася з сэрцам і 6 студзеня 1954 года Паўла Паўлавіча Кабекі не стала.

Смерць Паўла Паўлавіча была вялікай і цяжкай стратай для фізічнай навукі.

Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага сцяга, Айчыннай вайны II ступені, медалём "За абарону Ленінграда".

*Вольга Чарняўская.*

# Зварот да інтэлігенцыі Беларусі

## Аб скліканні Другога ўсебеларускага сходу інтэлігенцыі

Шаноўнае спадарства!

Беларусь сёння ўспрымаецца сусветнай супольнасцю як краіна, дзе душацца правы і свабоды чалавека, дзе праследуюцца нацыянальна арыентаваныя дзеячы культуры і мастацтва, выцясняецца з усіх сфераў ужытку мова карэннага этнасу, дзе існуе пастаянная пагроза суверэнітэту краіны, а народ, у тым ліку і інтэлігенцыя, у большасці сваёй даведзены да жабрацтва.

Таталітарызм асуджаны на выміранне, але ён уздымае галаву ў тых рэгіёнах, дзе інтэлігенцыя, а за ёю і народ, не змагаюцца за свае адвечныя правы, не даюць адпору кожнай праяве гвалту і беззаконня.

Яшчэ дзесяць гадоў таму лепшымі аналітыкамі і вучонымі Беларусі былі спрагназаваныя тыя падзеі, сведкамі якіх мы робімся цяпер - і развал так званай "Саюзнай дзяржавы", і васальная залежнасць ад суседняй краіны, і катастрафічнае скарачэнне насельніцтва, і многае іншае.

Сёлета наша краіна зноў будзе стаяць перад выбарам, які можа вызначыць яе далейшы лёс на многія гады.

Дзеля таго, каб зрабіць гэты выбар свядомым і свабодным, грамадская ініцыятыва "Рада беларускай інтэлігенцыі" склікае 25 красавіка 2004 г. у Менску Другі сход інтэлігенцыі Беларусі.

На сходзе будуць абмеркаваныя падзеі, што адбыліся ў краіне за перыяд пасля нашага першага Сходу, роля ў іх інтэлігенцыі краіны, вызначаны задачы на будучае.

Як наш канкрэтны ўнёсак у справу забеспячэння справядлівых выбараў дзеля абрання сапраўднага беларускага Парламента мы прапануем, падчас вылучэння дэлегатаў на наш другі Сход падрыхтоўкі да яго, сабраць подпісы ў падтрымку заканадаўчай ініцыятывы дэпутацкай групы "Рэспубліка" за змены ў выбарчым заканадаўстве з тым, каб кожны кандыдат змог прывезці на Сход не менш за сто подпісаў.

Запрашаем як мага больш шырокія колы інтэлігенцыі далучыцца да выбараў дэлегатаў на наш Сход, вызначыць у кожным рэгіёне тых, хто будзе прадстаўляць інтэлігенцыю таго ці іншага горада альбо мястэчка, вёскі альбо пасёлка. Ад усіх нас залежыць, наколькі пачуюць слова інтэлігенцыі тыя, хто сёння пры ўладзе. Мы зацросім іх на наш Сход, у якім прымуць удзел найбольш вядомыя дзеячы беларускай навукі, культуры і мастацтва, лідэры найбольш буйных палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў.

Інфармацыю па сходзе, у тым ліку ўзор ліста для збору подпісаў вы можаце знайсці на сайце: **http.shod2004.at.tut.by**

Спісы дэлегатаў, а таксама вашыя думкі і пажаданні просім дасылаць на адрас нашага арганізацыйнага камітэта: **Мінск, 220002, а/с 109**, E-mail: **rada-04@tut.by**, тэл. **8.0296 29 59 03; 8.0297 710139**

*Арганізацыйны камітэт.*

Сябры ТБМ і супрацоўнікі Кафедры беларускай філалогіі БДУ Культуры выказваюць шчырыя спачуванні актыўнаму сябру ТБМ, сталаму аўтару газеты "Наша слова", прафесару **Лідзіі Савік** у сувязі са смерцю маці **Алены Філіпаўны Шыкуновай**

# Да 90-годдзя з дня нараджэння Валянціна Таўлая

*"...Цёплай, сеёбіцкай жменяй*
*мы шчыра жыццё раскідалі,*
*каб вясна расцвіла для людзей*
*і на гэтай пакутнай зямлі."*
*("Таварышу маёй вясны", Вільня, Лукішкі, 1936 г.)*

16 сакавіка ў гасціннай зале Дома Купалы адбылася імпрэза "I сам ён звонкая легенда", прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння В.Таўлая, паэта, палымянага змагара за вызваленне Заходняй Беларусі, аднаго з першых супрацоўнікаў нашага музея. Адкрыў мерапрыемства дырэктар музея Я. Купалы Вечар Сяргей Уладзіміравіч.

У вечарыне-памяці бралі ўдзел людзі, якія не абыякава стаўяцца да гістарычнага мінулага нашай Бацькаўшчыны, ведаюць яе славутыя імёны, сярод якіх яскравая постаць Валянціна Паўлавіча Таўлая.

Пра маляўнічыя мясціны Слонімшчыны (в. Рудаўка, Вялікая і Малая Кракотка), дзяцінства гэтага незвычайнага чалавека, якое прайшло тут, усім прысутным распавёў Іван Саламевіч, купалазнаўца, супрацоўнік Беларускай энцыклапедыі. Ён сам родам з вёскі Малая Кракотка і не адзін раз чуў ад свайго бацькі цікавыя гісторыі пра род Таўлая і кучаравага хлопчыка Валянціна. Аповяд атрымаўся цікавым і з гумарам.

Пра вызваленчы рух Заходняй Беларусі, актыўны ўдзел у ім Валянціна Таўлая паведаміў доктар філалагічных навук, фалькларыст, літаратуразнаўца, краязнаўца Арсень Ліс.

Жыццё Валянціна Таўлая варта яркай, змястоўнай кнігі. Гэтакая ж кніга — яго творчасць. Сваім зместам яна цесна звязана з барацьбой, якая падказвала аўтару тэмы вершаў, паэм. З вуснаў вядучай вечарыны гучалі паэтычныя радкі В. Таўлая: адзін з першых вершаў "Жаданне" (1928г); вершы, якія нараджаліся за кратамі – "Дзяўчыне" (1929г, Слонім, астрог)

Пётр Фёдаравіч Прыходзька, знакаміты паэт, перакладчык, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова асабіста ведаў В. Таўлая. Пра сваю сустрэчу з ім у пасляваенным Менску ён і расказаў аўдыторыі, а таксама прачытаў урывак з паэмы "Незабыты пароль", якую ён прысвяціў В. Таўлаю.

Аб працы В. Таўлая ў Літаратурным музеі Я. Купалы побач з Уладзіславай Францаўнай, калі музей спачатку месціўся ў яе на кватэры, а потым у трох пакоях Дома прафсаюзаў, распавяла пляменніца паэта Ядзвіга Юльянаўна Рамаsucceedaноўская. Яна неадноўчы сустракалася з Таўлаем і падзялілася з прысутнымі гэтымі ўспамінамі.

Да вялікай радасці ўдзельнікаў вечарыны ў падзеі бралі ўдзел родныя паэта.

Ніна Паўлаўна Таўлай – сястра В. Таўлая здолела прыехаць з Вільні. Яна вельмі цёпла і дастаткова дэталёна распавяла пра свайго брата, асаблівасці яго характару і адносіны да малодшай сястрычцы, якой ён прысвяціў нізку вершаў.

Дачка паэта Галіна Валянцінаўна Таўлай, якая зараз жыве ў Пецярбургу, адгукнулася на нашае запрашэнне і прыехала на адзін дзень ў Менск. З вялікай любоўю і павагай яна гаварыла пра свайго бацьку і тых сяброў Янку Брыля, Анатоля Вялюгіна, Пятра Прыходзьку, якія замянілі яго, калі В. Таўлай пайшоў з жыцця. Напрыканцы чуллівага выступлення Галіна Валянцінаўна падаравала музею "Пецярбургскі дыярыюш для голаса і фартэпіяна на вершы беларускіх паэтаў", у якім змешчаны дарэчы і песні на словы В. Таўлая – "Шумяць бары", "Малой сястрычцы ".

У СШ № 4 г. Баранавічы, на радзіме паэта, існуе народны музей імя В. Таўлая. Яго загадчыца Ніна Мікалаеўна Шавель распавяла нам пра музей і падзялілася успамінамі пра святкаванне юбілейнай даты паэта ў лютым гэтага года.

Вельмі ўдала дапоўнілі вечарыну песні на словы В. Таўлая "Хлопцы" і "Яго напевам выпаў слаўны лёс" на верш М. Танка, якія прагучалі ў выканані аўтара – кампазітара Леаніда Шурмана, артыста Беларускай эстрады Сяргея Каратышэўскага.

Як шыкоўны завяршальны акорд нашай імпрэзы прагучаў урывак са спектакля "Янка Купала" ў выкананні Галіны Дзягілевай, Тэатр аднаго актора "Зніч".

Напрыканцы вечарыны былі падведзены вынікі творчага задання для аўдыторыі, большая частка якой складалася з моладзі. Пераможцы былі адзначаны сувенірамі, усе выступоўцы таксама атрымалі памятныя падарункі.

*Курылёнак Вольга,*
*нав. супр. Дзяржаўнага літаратурнага музея Я. Купалы.*

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

### Ахвяраванні на ТБМ

1. Каліноўскі – 5000 р., г. Менск.
2. Панізьнік – 2500 р., г. Менск.

Кафедра філалогіі БДУК

3. Налуновіч Алена – 1000 р., г. Менск.
4. Дробеня Вольга – 5000 р., г. Менск.
5. Пісарэнка Алена – 5000 р., г. Менск.
6. Савік Лідзія – 5000 р., г. Менск.
7. Дзіцэвіч Людміла – 10000 р., г. Менск.
8. Гуліцкая Вольга – 5000 р., г. Менск.
9. Саматня Рычард – 5000 р., г. Менск.
10. Яўтушэнка Ніна – 5000 р., г. Менск.
11. Гулева Таццяна – 5000 р., г. Менск.
12. Майсеенна Анатоль – 10000 р., г. Менск.
13. Палсцюк Валеры – 8000 р., г. Менск.
14. Кобец-Філімонава – 5000 р., г. Менск.
15. Навумовіч Іван Мік. – 25000 р., г. Менск.
16. Стральцоў Алесь – 10000 р., г. Менск.
17. Плакса Уладзімір – 6000 р., г. Менск.
18. Макарчук Антон – 5000 р., г. Менск.
19. Борын Алег – 6000 р., г. Салігорск.
20. Талуць Станіслаў – 5000 р., г. Гомель.
21. Казлоўская Іна – 1700 р., г. Менск.

Таварыства беларускай мовы пры правядзенні мерапрыемстваў у абарону беларускай мовы нясе значныя матэрыяльныя выдаткі. Просім па меры магчымасці падтрымаць Таварыства.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня
Разам

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**

### Адказы на крыжаванку са ст. 12.

**Па гарызанталях:** 3.Ганак. 5.Школа. 11.Кусто. 12.Рэнамэ. 13.Ронда. 14.Прага. 15.Панда. 16.Натоўп. 18.Друза. 21.Жаніх. 26.Аха. 29.Звон. 30.Вадаспад. 32.Каліта. 33.Арэол. 35.Млын. 36.Палаш. 37.Фанабэрыя. 40.Рапід. 42.Рэтуш. 45.Фізаліс. 47.Палын. 48.Улік. 49.Бал. 51.Чабарок. 52.Сарочка. 53.Укус. 55.Хабар. 57.Сумка. 59.Балалайка. 63.Арыон. 64.Асёл. 65.Вілія. 66.Медзь. 67.Чэшкі. 68.Штых. 69.Строк. 70.Сотня.

**Па вертыкалях:** 1.Акапі. 2.Ясень. 3.Горад. 4.Нанду. 5.Кранах. 6.Цнота. 7.Смоўж. 9.Карніз. 10.Лага. 17.Партрэт. 19.Рэпа. 20.Задэ. 22.Хваля. 23. Юнона. 24.Шарак. 25. Чаравік. 27.Аклад. 28.Алтар. 31.Арэол. 34.Офіс. 35."Мышалоўка". 38.Бэз. 39.Рупар. 40. Рагатка. 41.Пікап. 43.Лычка. 44.Нукус. 45.Фікус. 46.Шакал. 49.Бохан. 50.Барадзін. 52.Сал. 54. "Суліко". 56. "Балеро". 58. "Артэк". 59. Бочка. 60.Асетр. 61.Бляха. 62. Бінт.

**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" на аснове кішэннага каляндарыка з выявай народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава выпусціла плакат фарматам А-4 і А-3. Хто жадае атрымаць гэтую дарагую памятку ў юбілейны год вялікага творцы, раім звяртацца ў сядзібу ТБМ на адрас вул. Румянцава, 13 (Мінск) або праз тэлефон 284-85-11. Можна скарыстацца і электроннай поштай: e-mail: tbm@tbm.lingvo.minsk.by.**

**Сакратарыят ТБМ.**

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 64. ШУКАЛЬНІК
**(С. Будны)**

Зноў дыміў і курэў
храма вечны агонь.
Не запальваў грудзі.
І здагадваўся ўнікліві розум яго:
Круцяць Божыя людзі.
О, якіх ім багаццяў,
высокіх пасад –
Што пакінем нашчадку?
Разумеў –
трэба проста вярнуцца назад
Да пачатку пачаткаў.
За ўсім гэтым шустрым
абрадавым дымам –
О, як жа палала!
У Пісання сягнуў ён
прастор неабдымны,
Да арыгінала.
Патрывожыў людзей у Касцёле –
Нязвычны быў чыннік.
Не цікавіўся
Госпада тварам ніколі
Яго суайчыннік.
Ды вось так – яшчэ дзе і калі –
Віраваў горад розумам палкім?
Новы час небяспечны ўзбурліў –
Трэслі храмы гарачыя сваркі.
Скланулісія раптам
пад Богам жыцці,
Як ад моцнага стрэлу.
Немагчыма было сярод твані ісці
З галавой захварэлай.
Хто натоўпы збярэ
ў кагорту адну
Непарыўна і злітна?
Дрэнна люд нават ведаў – каму
Дасылаў ён малітву?
Уяўляў сабе ісціну цьмяна,
Не ведаў прасвету.
Задурылі, нібыта барана,
Яго з Тройцай гэтай.
Адвяргаў, ерэтык,
мудрагелісты здзек
Над вялікай патрэбай.
Без дазволу, лічыў,
права меў чалавек
Сам звярнуцца да неба.
Каб з адчаем не біцца
ўжо аб сцяну,
Волей дадзена яснай
Разабрацца ўрэшце годна яму
З цяжкім грэхам уласным.
Дасягне хай сваіх
аддаленных граніц,
Нават і патаемных.
А калі слова Божае
ў сэрцы гарыць,
Хто пакіне дарэмна?
Дзе адзначыць прызванне яго
і пячаць
Хоць мужычую долю –
Там не стане яно пагарджаць
Пахам роднага поля,
Чараўніцтвам палескага
лесавіка.
Пра вайну – дык няйначай
Будзе голасам
толькі яго земляка
Ўсявышні тлумачыць.
Што б ні ведаў
аб самай праклятай бядзе,
Аб няшчасці загіну,
А такога яму не стварыць
больш нідзе
Аб крыві напаміну.
Перад гэтым народу не ўпрэш
лёсу дым,
Несумленную працу.
Пра Настаўніка,
раскрыжаванага ў ім
Ці яму забывацца?

### 65. ЗАГНАНЫ
**(С. Будны)**

Вось куды нязгоды давялі
І бясконцых сутыкненяў хвалі.
Розныя, з усіх бакоў зямлі
Ворагі яго апанавалі.

І кругом – адзін суцэльны роў
Без другога лёсу-прыгавору.
Як няма і пушчы без ваўкоў,
Не бывае розуму без гора.

Легчы б у высокую траву...
Скрозь пільнуюць
жвавыя падкопы.
Што з таго, што нашу галаву
Ведаюць далёка па Еўропе?

Наравісты вэрхал у жыцці –
За спіной пачуццяў рэзкіх світа
На двары спакойна не прайсці –
Зубы аж рыпяць у езуітаў.

Ноччу сняць яны ворожы лік.
Розум захлынае ачмурэнне:
Будны. Распракляты ерэтык,
Тоне ўрэшце
ў полымі пякельным.

Што яна, былая слава? Тлен.
Вось ужо, Сымоне, ты і здрайца,
Ворага яшчэ перажывем,
Ад сваіх бы нейк адбрахацца.

Да адзінак клеюцца нулі
І з усіх пасмейваюцца шчылін.
Ёсць аб чым –
з друкарняй развялі
І з былой трыбунай разлучылі.

Не стрымаць ім захапленя крык,
Быццам крок адзін да свету солі.
Гэтакі суцішылі язык!
Зараз нагаворацца ўволю.

### 66. СКАРЫНІЧЫ

Не, не менела ў думках надзей.
Жыць хацелася свецячы, мірачы.
І панеслі паходню далей
Па прасторах краіны скарынічы.

Не згалела іх родам зямля.
Слова рускае палка бароняча,
Завіхаўся Заблудаў пасля,
Шчыравалі ўпарта Мамонічы.

Па начах неспакойных ізноў
Ім фантазія розная снілася.
Дык ад кветнікаў першых лістоў,
Бы ў садзе, увачч мітусілася.

Жыватворнай вясёлкі працяг,
Прыналежнасцю слаўнаю
гордыя.
Незабыўныя фарбы жыцця
З дрэварытаў
сачыліся, шчодрыя.

Адкрывалася прастрань святлу
І намервваўся Захад накінуцца.
Ды лацінскі напышлівы тлум
Супакойваўся роднай кірыліцай.

А сінела ўсходняя даль
За ракою – для літар зацішная.
Не друкарнічаў цёмны маскаль.
Татарву ад сябе
толькі выгнаўшы.

Адно сумна стаяў на пасту
Перад Азіяй, надта няўмольнаю.
Ўрэшце Фёдараў
зрушыў Маскву.
Дый таму ж
у Літву далі вольную.

І забегалі крыжа айцы
Пад крамлёўскімі
неяк курантамі.
З рускім людам ліцвіны-купцы
Гандлявалі сваімі фальянтамі.

Праз іх і мастак, і прарок,
Захад дзіваў сваіх нарасказваў.
Быў нядужы суседзічаў зрок
Пышным гэтым
лістам абавязаны.

Для яго векапомнай вясной
Пачалі шлях праменні гарачыя.
Як жа моцна калісьці за ўсё
Край ліхтаршчыкаў шчырах
аддзячылі!

### 67. РЭХА

Тужыліся – моршчыліся лбы,
Зарасталі пропаведзі цвіллю.
Для народа простага папы
На старой славянскай гаварылі.

Варажыла мова ля чала
Голасам глухім далёкай эры.
Часткай слова Боскага была.
Рэхам незабыўным
грэцкай веры.

Жыў абрад – з нябачнай вышыні
Гуку таямнічаму пачуцца.
На святыню – Божа, барані –
Спрытнаму камусьці
замахнуцца.

Скрылі цэрквы манастыры
Тайну ў сябе, бы ў падзямеллі.
А і самі гора-святары,
Што чыталі –цяжка разумелі.

Чорт калі яшчэ прызначыў лёс
Богу непарушную ахову.
Нібы не пускалі да нябёс
Нашае скарынінскае слова,

Ледзь паўзлі абозы ад крыніц.
Іх вышэйшай волі супярэчча.
Здзекваўся і Скарга – не ўцяміць
Мудрасці такой звышчалавечай.

Верыў Божы люд: зямлю ў бядзе
Выратуе словейка святое.
Акрапіў Мялеці-чарадзей
Хворы гук як бы жывой вадою.

Даў надзею выкупіць грахі.
Толькі не суцешвалі казанні.
Разыходзіліся берагі.
Бездань паглыблялася між намі.

Сцісківала вусны немата.
Голасу тутэйшае сцяжыны –
Як было падняцца да Хрыста?
Неба спрэс клубы заклалі дыму.

### 68. ІРЖА

Белы свет пакрысе
станавіўся крывым.
Блытаў хлеб наш надзённы
і далікатэсы.
Расцякалася ляшства
па панскай крыві.
Як трухлявая ржа
па старому жалезу.
Не стрывалі ўладнікі
стойка смугу
Напусцілі чужога смуроду
ў пянаты.
І нудлівыя вочы ў дзікім кутку
Спакусілі цікавыя
дужа прынады.
А тутэйшая твань
разышлася кругом.
Кроку шкодзілі моцна
сярмяжныя путы.
Задыхаліся вельмі паны
ад свайго
Дужа шэрага і захудалага люду.
Забалела, няйнакш,
пра чужы ўраджай.
Захацелася нейкай
смачнейшай халеры.
І з'явіліся госці-суседзі ў край
Як бліскучыя воіны і кавалеры.
Хоць здавалася –
брацця гэта свая,
Ох, не надта
нас ізняя грэла пашана.
І гарохавым пудзілам
нейкім стаяў
Пан-русін ля прыступкаў
шляхетнага шарму.
У паны лез няўдала
ўсё той жа мужык,
І давалася цяжка такая навука.
Ледзь варочаўся ў роце
ўласны язык,
Абцяжараны раптам
брыдотаю гукаў.
Бо вясковае тое яго памяло
Пакідала зусім невысокія шанцы.
Ці такою калодай, урэшце, было
Пірагоў для сябе
хоць якіх дамагацца?
А ўвогуле ж не незямных асалод,
Толькі добрага прагнула
постаць прыстання.
Ля адзіных тады
запаветных варот
Аб жыцці ці аб смерці
стаяла пытанне.
Тут мараль дазваляла
ўсе антраша.
Калі зводзіла проста
са шляху зямнога,
Дык тым больш памяркоўная
вельмі душа
Не спрачалася,
ў бойку не лезла з-за Бога.
Бо карысці не бачыла ані храна.
Расставалася з зоркай былой
натуральна,
Па адметнасці – не,
не стагнала яна,
Бо жадала ярчэць
сярод рэчаў рэальных.
На вачах вось блакітнела
грэшная кроў.
Спасцігаючы спрытна
чужыя каноны.
Не бывала, аднак,
часам без дзівакоў –
Сустракаліся белыя
недзе вароны.
Адчувалі, як ззаду іх нешта заве
І трымае учэпіста рэхам
маркотным.
Ды хоць песцілі
родныя здані свае,
А хвалілі далей,
быццам сорам прыродны.
Расцягаўся натхнёна
астатнімі храм.
І Айчыны ў грудзях
патухала лампада.
Сярод беднага поля
халодным вятрам
Пакідаў брат старэйшы
малодшага брата.
Дзе б знайсці,
каб данесці нашчадку пяро?
Ой, паганаю цешыла
родзіча роллю!
Хоць і не ўспрымала
палякаў нутро,
Са стала іх усё-ткі
карміліся ўволю.
Так прыходзіў каварны
Еўропы расклад,
Аднача сна – пашана яе і апала.
Акрамя і апрычнаю
звычкай Масква
Ў бок бліжэйшы
суседа няспынна штурхала.
Хто б яшчэ да канца гэтак
стойка цярпеў...
Упіхалі зямлі іншаземную волю.
Не ўспрымалася толькі
сама па сабе
У чужых гарадах
і на каліва долю.

### 69. ДЗІВАК
**(В. Цяпінскі)**

Няхай бы нецвярозы пустамеля,
Ці хворая ахвяра кулакоў.
А гэтага і так не разумелі:
- Не бачыў свет
такіх вось дзівакоў.

Сказаў бы лекар:
тут няма надзеі.
Хоць ціха, дзякуй, ад яго брахні.
Напэўна, хутка ці не адурнее:
Так запісаўся – Божа барані!

Вунь прыцягнуў варштат
круты дадому.
Друкуе нешта – чуецца на слых.
Такі, прабач, вялікі ён вучоны –
Згалеў ад дужа
мудрых кніг сваіх.

Калі яму залічыцца такое?
Няхай памудраваць
сходзіў бы ў храм.
... А чалавеку не было спакою,
Калі глядзеў услед веселунам.

Ужо грудзей
раскрадзенай пустыні
Нічога б, пэўна, не дапамагло.
О, што тады рабілася ў краіне.
У Ляхіі цяпер ужо, яго!

Разладжвалася дзесьці абарона.
І дываном прышэльцу
слаўся тыл.
Вяльможная ўбіралася варона,
Тутэйшая, на кракаўскі капыл.

Дурнелі на вачах ажно галовы.
Па міласціну лезлі жабракі.
Зрабілі ганьбу з матчынага слова
Знаёмыя паночкі, землякі!

Гулялі ўсе на іншаземным балі.
У блазнаў абярнуўшыся ўміг.
Як Бога продкі нам перакладалі,
Не снілі нат наступнікаў такіх.

Так лёгка разлучыліся
з мінулым,
Скрыжалямі святых яго замоў...
Няўжо нічым у твары
не дыхнула
Адтуль,
яшчэ з рагнедзіных часоў?

Два крокі
да бацькоўскага пагосту,
Дык ці перажывем бяду, стары?
Ужо гандлююць нашым
першародствам
Тутэйшыя мянялы-святары.

Хто ж іх абудзіць, тыя сутарэнні,
Дамы,
дзе пакрывіўся гэтак зрок?
Не знойдзеш тут, душа,
паразумення –
Аблаянай адпусціць за парог.

Малюся, апусцелымі вачыма –
Са светам разам каб не захварэў.
Нашто і ўсё жыццё
мне без Айчыны?
Няхай у час адзін нас забярэ.

Але хвалюе кліч яе трывожны –
Грымяць яшчэ лістоў маіх званы.
Ты недзе, веру,
ёсць, чытач пабожны,
Адна, хіба, надзея на зямлі.

Што Бог нальe, нашчадак,
табе ў чашу?
О, толькі бы не гэтае цягло –
Каб боль ты зразумеў увесь,
сказаўшы:
- Смяяліся аж з клопату майго.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Дапамагае выпрастацца “Надлом”

Калі мяне запрасілі ў бібліятэку №7 імя Якуба Коласа на абмеркаванне рамана В. Якавенкі “Надлом”, я накідаў сабе на аркуш паперы некалькі пытанняў агульнага, так бы мовіць, плана, з якімі думаў звярнуцца да прысутных. Але шчырая гутарка, зацікаўленая размова, а часам і палемічныя выступленні запрошаных на сустрэчу з аўтарам рамана чытачоў бібліятэкі — не вучоных, не літаратараў, а простых людзей — змянілі мой намер выступаць, нешта даводзіць аўдыторыі, захопленай кнігай В. Якавенкі.

Я сядзеў і з задавальненнем слухаў. Слухаў тых, для каго і ствараў свой гістарычны раман “Надлом” яго аўтар. І ён таксама быў увесь увага: задавальненне і зацікаўленасць былі на яго твары. Адкрытасць і шчырасць выступленняў чытачоў-рабочых, інжынераў, пенсіянераў, мастакоў, праграмістаў — было бачна — падабаліся аўтару. Прагна лавіў ён і кожную крытычную заўвагу пра недахопы кнігі.

Наведваючы тыя ці іншыя літаратурныя вечары, прэзентацыі кніг у прысутнасці аўтараў — беларускіх пісьменнікаў — я бачыў спрэс знаёмыя, адны і тыя ж твары. Часам было нават трохі крыўдна, што такая абмежаваная, такая звыклая аўдыторыя прыхільнікаў беларускай літаратуры, беларускага слова. Пасля ж гэтай сутрэчы я вярнуўся дадому ўсцешаны, што шырэй і разнастайней становіцца кола тых, хто цікавіцца беларускім словам, каму патрэбна такая вось праўдзівая літаратура.

Слова “праўда” было адным з найбольш часта ўжываных ва ўсіх выступленнях чытачоў. Было відавочна, што гістарычная праўда, як у рамане “Надлом”, цікавая чытачам. Яна вучыць, як ацэньваць наш “беларускі шлях” у мінулым і ў сучаснасці. Гэта было лейтматывам усіх выступленняў.

Адбылася сустрэча з кнігай, якая выклікала цікавасць, прымусіла задумацца над тым, што, менавіта, такія сустрэчы вельмі і вельмі патрэбны сёння ўсім нам, чытачам і пісьменнікам, каб “з цэлым народам гутарку весці”, каб узняць яго духоўнасць, каб, урэшце. ён сам, наш беларускі народ, адчуў сябе нацыяй. Перакананы, што такіх вось сустрэч з беларускімі пісьменнікамі павінна быць больш.

І трэба ад душы падзякаваць арганізатарам сустрэчы — загадчыцы бібліятэкі Працько Ганне Антонаўне, загадчыцы абанементнага аддзела Лілеі Уладзіміраўне Чырковай за іх вельмі патрэбную ўсім нам працу па духоўным адраджэнні Беларусі.

Напрыканцы хачу зазначыць, што зала ў бібліятэцы на сустрэчы з Васілём Якавенкам была паўнюткая, што сустрэча доўжылася больш дзвюх гадзін. Рэпрэзантаваў раман “Надлом” вядомы беларускі крытык і літаратуразнаўца, кандыдат філалогіі Анатоль Верабей. Васіль Якавенка адказаў на шматлікія пытанні чытачоў, удзельнікаў сустрэчы, падпісаў на памяць ім свае кнігі.

***Віталь Маслоўскі.***



*Стольная Вільня*

# Крыжаванка “Адновім мову”

*Склаў Яўген Ляхаў*



**Па гарызанталях:** 3.Прыбудова-прыступкі з навесам перад уваходам у хату. 8.Сярэдняя агульна-адукацыйная навучальная ўстанова. 11.Славуты французскі падарожнік, вучоны – акіянограф, гідролаг. 12. Усталяваная рэпутацыя, агульная павага (кніжн.) 13.Музычная п’еса, у якой неаднаразова паўтараецца рэфрэн. 14.Сталіца дзяржавы ў Цэнтральнай Еўропе. 15.Жывёла сямейства янотавых, т. зв. бамбукавы мядзведзь. 16. вялікае зборышча, скопішча людзей. 18.Група аднародных крышталяў, наpослых на агульнай аснове. 21.Мужчына, які мае намер уступіць у шлюб. 26.Горад на Сахаліне. 29.Пагалоскі, плёткі (разм.). 30.Імклівы паток вады са стромкага ўступа ў рэчышчы ракі. 32. У старой Русі:паясная сумка для грошай. 33.Светлавы круг, ззянне вакол галавы, прадмета. 35.Тэхнічнае прыстаасаванне для здрабнення зерня ў муку. 36.Даўней:халодная зброя з доўгім прамым клінком. 37.Зазнайства, пыхлівасць, ганарыстасць. 40.Спосаб замаруджанай кіна- фотаздымкі. 42.Выпраўленне хібаў на фотаздымку спецыяльнымі прыёмамі. 45.Папулярная паслённая расліна – агародная культура. 47.Шматгадовая травяністая расліна, яе разнавіднасць – чарнобыль. 48. Рэгістрацыя з занясеннем у спецыяльныя спісы. 49.Насавая частка верхняй палубы судна. 50. Ацэнка. 51. Традыцыйная лясная расліна нашых мясцін з дробнымі пахкімі кветкамі. 52. Жаночая споднняя, звычайна начная, кашуля. 53.Пашкоджанне скуры зубамі жывёлы. 55. Грошы або рэчы як подкуп. 57. У кенгуру і іншых некаторых жывёл Аўстраліі – скураная складка на жываце для дзіцянят. 59. Рускі трохструнны народны музычны інструмент. 63.Экватарыяльнае сузор’е (зоркі Рыгель, Бетэльгейзе). 64.Паўднёвая свойская жывёла. 65.Беларуская рака, якая, перасекшы граніцу з Літвой, мяняе сваю назву. 66.Метал чырванавата-жоўтага колеру, вязкі і коўкі. 67.Лёгкія тапачкі для заняткаў гімнастыкай. 68.Пласт зямлі на глыбіню ляза рыдлёўкі. 69.Амерыканскі кампазітар – аўтар шматлікіх танга, факстротаў і іншай танцавальнай музыкі. 70.Вайсковае падраздзяленне ў стралецкіх, казацкіх і падобных войсках.

**Па вертыкалях:** 1.Афрыканская жырафападобная жывёліна. 2.Дрэва нашых мясцін з пёрыстым лісцем. 3.Вялікі населены пункт з адметнай інфраструктурай. 4.Страўс Паўднёвай Амерыкі. 5.Нямецкі жывапісец XУ-XУI ст.ст. са своеасаблівым почыркам падачы творчай ідэі. 6.Светлая чысціня маральных адносінаў. 7.Тое, што і слімак. 9.Перакладзіна над акном, дзвярамі для навешвання штор, парцьер. 10.Драўляны брус, на які насцілаецца падлога. 17.Выява чалавека на карціне, фатаздымку, у скульптуры. 19.Агародны караняплод. 20.Ганаровы дадатак да прозвішча ў мужчын-таджыкаў. 22.Вал, які ўтвараецца ад гайдання на паверхні вады. 23.Адна з буйнейшых малых планет, якая мае № 3. 24.Парода зайцоў. 25.Невысокі, звычайна скураны абутак на шнурках. 27.Зацверджаны памер заработнай платы. 28.Даўней: месца, куды ўскладаліся ахвярапрынашэнні. 31.Мясціна пражывання пэўных вывёл або вырастання пэўных раслін, якія бываюць толькі ў гэтай мясцовасці. 34.Сучасная назва канторскага, службовага, адміністрацыйнага памяшкання. 35.П’еса вядомай пісьменніцы – майстра дэтэктыўнага жанра А.Крысці. 38.Дэкаратыўны кустоўнік з пахкімі лілова-блакітнымі або белымі кветкамі. 39.Канічная труба для ўзмацненя гуку. 40.Халодная дзіцячая зброя-забаўка. 41. Тып кузава невялікага аўтамабіля для перавозкі пасажыраў і невялікіх грузаў. 43.Нашыўка на пагоне вайскоўца. 44.Адміністрацыйны цэнтр Кара-Калпакскай Рэспублікі. 45.Традыйцыйная буйналісцевая пакаёвая расліна. 46.Драпежнік сямейства сабачых, які харчуецца пераважна мярцвячынай. 49.Выпечаны хлеб прадаўгаватай формы. 50.Рускі вучоны-хімік – аўтар вядомай оперы “Князь Ігар”. 52.Левы прыток Дона, які “падсілкоўваецца” Цымлянскім вадасховішчам. 54.Славутая грузінская народная песня. 56.Знакаміты танцавальны твор французскага кампазітара М.Равеля. 58.Школьны, дзіцячы лагер у Крыме. 59.Фігура вышэйшага пілатажу на самалётах. 60.Каштоўная буйная прамысловая рыба. 61.Тонкае ліставое жалежа для дахаў. 62.Марлевая стужка для перавязкі ран, іншых пашкоджанняў цела.

(Адказы можна праверыць на ст. 9.)

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 22. 03. 2004 г. Замова № 514.
Аб’ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
***Кошт у розніцу:*** 295 руб. (у Менску - 310 руб.)